

ТРЫВЕЖЫ — 375 ГАДОЎ → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Вершы Юркі Баены → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3146) Год LXI | Беласток, 28 жніўня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



■ Васіль Петручук

# МАЯ БЕЛАРУШЧЫНА

## РАЗМОВА З ВАСІЛЁМ ПЕТРУЧУКОМ БЕЛАРУСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ

**Васіль Петручук** нарадзіўся 23 жніўня 1926 г. у Грабаўцы Дубіцкай гміны на Падляшшы. Вайсковец, грамадскі дзеяч. Сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Саюза польскіх пісьменнікаў (1986) і Саюза беларускіх пісьменнікаў (1997). Піша па-польску і па-беларуску. Аўтар кніг: „Ściernisko" (1986), „Пожня" (1987), „Księga hańby" (1995, 2000, 2006), „Клавуня, гэта я, твой Вася" (1998), „Крышынкі" (2009), „Blizny" (2010).

Віншуем з 90-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнай радасці і творчага плёну!

**Міра Лукша:** — Вы сталі пісаць па-беларуску ад часу, калі вярнуліся на Беласточчыну. Былі чытачом «Нівы» — казалі, што вывучылі беларускую мову з яе старонак ды з сустрэч з ніўцамі, пасля сталі нашым карэспандэнтам. Ваша першая кніга выйшла найперш на польскай мове (у перакладзе Юркі Плютовіча). А ў нашым альбоме пра «Ніву» з гонарам змясцілі мы здымак Вашай вайсковай кніжачкі, дзе вы назвалі сябе беларусам, роднай мовай беларускую, а мовамі вывучанымі — польскую і рускую.

**Васіль Петручук:** — Каб хтосьці не падумаў, што я чамусьці хачу пахваліцца сваёй беларускай мовай, то я скажу, што гэта быццам бы наадварот. Я не меў чым хваліцца, бо якраз маё няшчаснае існаванне сярод вясковай цемры не давала мне такой магчымасці, каб вывучыць яе, нават польскай мовы. Бо мачыха з «добрым» татам ані на адзін дзень не пусцілі мяне ў школу. Мог я размаўляць толькі па-грабавецку. Нашы бежанцы вярнуліся з Расіі ці Украіны, дык я часам чуў ад іх рускую ці ўкраінскую мовы ды песні, і я іх лёгка засвойваў. Цётка Матрона гаварыла, што ў мяне памяць такая, як у пакойніцы Ганны (маёй мамы), якая часам на здзіўленне сям'і ўставала раніцай і спявала песню пачутую ў сне. Але не дачакала мама, каб гэтыя песні ці песню пераказаць сыну. Але я і так сярод гэтых людзей мучыўся, зносіў іх здзекі і насмешкі, а ад бацькоў рэмень, біч і кій, але імкнуўся штосьці ведаць і шанаваць старэйшых людзей. Калісьці з групай аднагодкаў ды старэйшых хлопцаў (трох Петрыкавых, трох Антонікавых і Шэшкавым Мытёй) я пасвіў кароў у Бусельніку. Убачыўшы, што да Грабаўца ідзе з Дубіч матушка, я сказаў ёй «здрастуйце», а матушка адказала. А хлопцы на гэта: «Дурный мазур, каму ты кажэш здрайстуйце, то ж то попадя?!». А матушка на гэта: «То ты адзін з другім выростэш на дурня, а з ёго будут людэ!». Матушка ўвайшла ў вёску, а калегі ўсыпалі мне кіёў... Хопіць пра дзяцінства. Трэба сказаць без сораму, што я хацеў бы ведаць як найбольш моў, а ведаю... Калісьці ў размове з паслом Рэспублікі Беларусь ён пахваліў мяне за прыгожую беларускую мову. А я пахваліўся яму, што ведаю мовы беларускую, рускую і ўкраінскую як польскую. А польскую — на тры. Як бы не было, але калі вучыўся ў тэхнікуме сувязі, то пані прафесар па рускай мове і літаратуры папрасіла мяне, каб я на дзень сувязіста падрыхтаваў прамову і сказаў яе перад усім тэхнікумам і гасцямі. За мову атрымаў воплескі, а за верш Міхалкова пад загалоўкам «Сувязіст» — бурныя апладысменты. І да сёння памятаю той верш...

**Міра Лукша:** — І заўжды былі Вы Васем.

**Васіль Петручук:** — Калі я працаваў у Аддзеле спецсувязі, усе афіцэры звярталіся да мяне «Вася». І наогул, дзе б я не быў, нідзе не таіў сваёй нацыянальнасці, як гэта часта рабілі мае грабаўляне, працуючы ў Варшаве. Не буду называць іх прозвішчаў, бо няма кім хваліцца, але калі наведвалі мяне, калі я жыў у цясцёў, то нават цешча звяртала ім увагу, каб размаўлялі па-свойму: «Ja wiem kim jest Wasia i bardzo go lubię». Але дзе там — яны «палякі».



■ Белавежскія юбіляры — Жэня Мартынюк (60 гадоў) Васіль Петручук (90 гадоў)

У маё існаванне сярод палякаў перанёс я дзве прыкрасці. Не, тры. Першая такая, што ў РКУ (ваенкамаце) у Бельску даведаўся, што я не Васіль, а Базылі. Другая, калі я быў у афіцэрскай школе, свіняваты нацыяналіст назваў мяне «рускім гарбузом» за тое, што я, быўшы дзяжурным афіцэрам батальёна, не дазволіў яму зжэрці дадатковай кансервы. А трэці выпадак — у 1981 годзе капітан пагранічных войск сказаў мытніку Юзафу Мжычку: «O, widzi pan, ten skurwysyn myśli, że jak się nazywa Pietruczuk, to jest oczkiem w głowie». А «выкрыў» ён у мяне маленькі магнітафон, з якім я ехаў на працу ў Чэхаславакію. Прозвішча гэтага фашыста ніхто мне не даў. Але дурням права не пісана, бо калі польскі хам так да мяне звярнуўся, то я павінен патрабаваць спалучыць мяне з генералам Цястонем у Варшаве, які быў адказны за будову электрастанцыі ў Хамутове — ён бы яго навучыў! А ці ў 1949 годзе хамаваты Зыгмунт Багута не пацэў бы з афіцэрскай школы за тое, што назваў мяне рускім гарбузом?.. Я ўсяго перанёс у жыцці, і ведаў, кім я ёсць. Але як мне цяжка цешыцца сваім глыбокім патрыятызмам, калі ўнучкі ведаюць многа замежных моў, а маёй роднай — не...

**Міра Лукша:** — А дзякуючы сваёй творчасці дарабіліся Вы і сяброў, і ворагаў. Георгій Валкавыцкі ў сваёй фрашцы пра вас адзначыў: *Выйшаў ён на Пожню, дзвынкнуў медалямі, пастушкам зняможаным уручыў дынаміт* («Ніва», 20.09.1992).

**Васіль Петручук:** — Я сваёй пісаніной дарабіўся і сваіх ворагаў, і чужых прыяцеляў. Нават ва Украіне маю чытачку Аляксандру Пятроўну, якая маю «Пожню» атрымала з Камчаткі і каля трыццаці гадоў піша мне пісьмы і віншуе з днём нараджэння. А вось яе пажаданні на маё сямідзесяцігоддзе: «Сегодня я желаю Вам здоровья, счастья, радости. На зло предательским странам прожить сто лет без старости. Листать страницы прожитого рано, рождения дату незачем смотреть. Она была и будет без обмана, весь фокус в том, чтобы не стареть...».

**Міра Лукша**: — Ваша «Пожня» сапраўды ўскалыхнула сэрцы многіх чытачоў, не толькі на Падляшшы. «Księga hańby», якую Вы адважыліся выдаць некалькі разоў — дала Вам ворагаў сярод тых, хто біў за беларушчыну, ушаноўваных цяпер, ворагаў і сярод іхніх патомкаў, якія патрапяць Вам і пазваніць з пагрозамі. Але ёсць такія чытачы і паплечнікі, якія не забываюць пра Вас і Вашы словы.

**Васіль Петручук**: — Частыя размовы па тэлефоне бываюць у нас з пані Тэрэсай Якубоўскай, пані прафесар Крыстынай Бадурскай-Рытэль. Звоніць мне шмат старых вайскоўцаў з усёй Польшчы. Прыемная і карысная камунікацыя з доктарам Міколам Рошчанкам, з Юркам Трачуком. На працягу нашага знаёмства многа падарункаў атрымаў я ад прафесара Яна Чыквіна — між іншым маю статуэтку «Дрэва жыцця», якое мне прыснілася ў раннім дзяцінстве на коміне з распятым Хрыстом. Усім сардэчна дзякую, хаця я не ўсіх пералічыў тых, каму я ўдзячны за ўвагу, сяброўства і зразуменне. Але са спадарствам Нінай і Дзімам Шатыловічамі (неўзабаве юбілей 90-годдзя і ў Дзмітрыя!) найбольш цесна звязвае мяне любоў чалавека да чалавека. Ёсць нагода, каб падзякаваць мне ўсім сябрам-«белавежцам» ды чытачам і пажадаць ім усяго добрага, шчасця, здароўя і натхнення ды творчага плёну! А я назаўжды застануся беларусам!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Візавая палітыка

Адзін мой знаёмы вельмі любіць падарожнічаць. Трэба аддаць яму належнае, гэта ў яго добра атрымліваецца. У першую чаргу таму, што правільна выбірае кампанію. А яна, як вядома, на кожнае падарожжа патрэбна свая.

Гэтым разам яго выбар паў на мяне.

— А ты не хочаш у Англію з'ездзіць? — неяк запытаў ён мяне. — У цябе ж, наколькі мне вядома, прабабка родам з Вялікабрытаніі. Ну дык вось з'ездзіш і разбярэшся адкуль яна канкрэтна. З Шатландыі, Паўночнай Ірландыі, Уэльса ці самой Англіі. А заадно пагледзіш на зямлю, дзе жылі і працавалі адны з тваіх прашчураў.

Прапанова вельмі заманлівая. Толькі ведаю, што нам, беларусам, не так лёгка яе ажыццявіць. Асабліва цяпер і асабліва такім як я. І асабліва, калі маем продкаў аднекуль адтуль, куды патрапіць хочам.

Зразумеў я гэта тады, калі падаў паперы як праваабаронца па адмысловай праграме на паездку ў ЗША. Ніякіх сумненняў я не меў, што прайду. І не толькі таму, што рэкамендацыі меў ад надта ўплывовых людзей.

Ну, як маю кандыдатуру маглі адкінуць, калі нават прадзед мой быў грамадзянінам ЗША і сваёй цяжкай працай і паламаным беларускім лёсам падымаў яе эканоміку на пачатку дваццатага стагоддзя. Там жа ён і сустрэў тую англічанку, маю прабабку. Там жа і шлюб з ёю ўзяў. І як вынік іх кахання там жа, у Нью-Йорку, нарадзіўся мой дзед, што па волі ўсяго таго ж беларускага лёсу прынесла яму вялікія праблемы. Бо мая мама ўсё дзяцінства чула, як яе бацькі штодзённа перажывалі, што дзеда забяруць бальшавікі ў Сібір, бо ў яго пашпарце месцам нараджэння значыліся ЗША.

Ну, але па той прагараме знайшліся больш вартыя людзі. Я то не ведаю тых людзей і пра справы іх не чуў, але кажуць, што яны існуюць насамрэч. І іх справы нібыта таксама, як мінімум на паперы. І яны значна больш мультыкультурныя, чым мае. А вось мець заходнееўрапейскіх продкаў у сваім генеалагічным дрэве на сённяшні дзень вельмі несучасна і нямодна.

Я не асабліва расхвальваўся ад таго, проста зразумеў, што свет за апошнія дзесяць год змяніўся. Ну, а яго візавая сістэма — найлепшае гэтаму люстэрка.

Некалі, асабліва ў дзевяностыя гады, мы свабодна перасякалі заходнюю мяжу. У Польшчу ўвогуле віз не было. Ну, якія сапраўды могуць быць візы ў суседзяў? Асабліва ў такіх падобных адзін на другога суседзяў, межы паміж якімі палітыкі малявалі то тут, то там. У суседзяў падобных не толькі знешне, але і культурна, і гістарычна... Ну, беларусы, яшчэ пакуль што не вырваліся з-пад моцных лап Крамля. Пагаджаюся. Ну, то ў гістарычным маштабе і палякі не так даўно былі ў тых абдымках.

Адным словам візы паміж Польшчай і Беларуссю — з'ява ненатуральная, як белы мядзведзь у Афрыцы. Але яны ёсць. І самае галоўнае, штогод іх атрыманне звязанае ўсё з большымі цяжкасцямі, хоць беларусы за ўсе гэтыя гады не заўважаныя былі ні ў адным тэракце ў Еўропе. І ўвогуле ў злачынствах. Здаецца, для тых, хто вызначае візавую палітыку для той ці іншай краіны, гэта мусіць быць аргументам. Але не туды тое.

І вось у той час, калі беларус мусіць за кожным разам пры перасячэнні мяжы ў Еўропу і назад паказваць свае адбіткі пальцаў, Еўропа прымае мільёны ўцекачоў, у якіх і пашпарты не ва ўсіх ёсць. І сама прызнаецца, што ўжо згубіла са свайго поля зроку ажно пятнаццаць адсоткаў з гэтых мільёнаў. Дзе яны і што яны робяць, дзеля чаго прыехалі і ці збіраюцца назад, ніхто не ведае і ведаць не хоча. Ясна, што значна лягчэй увесці абавязковыя адбіткі пальцаў для законапаслухмяных, чым адсачыць пятнаццаць адсоткаў тых, хто ад пачатку плявацць хацеў на ўсе еўрапейскія законы.

Вось прыкладам паперы, якія трэба запоўніць грамадзяніну Беларусі, каб атрымаць візу ў Англію. Вы ведаеце, значна лягчэй туды патрапіць без візы. А наяўнасць англійскіх продкаў хутчэй абцяжарваючы фактар, чым палёгка.

І не дзіўна, што з-за такой еўрапейскай візавай палітыкі, цяпер усё больш людзей у свеце, якія вырашаюць у якасці каго ім лепш наведаць Заходнюю Еўропу, турыста ці нелегала, выбіраюць апошняе. А еўрапейскія чыноўнікі аніяк не могуць зразумець чаму.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Атлантыдкі



Мужчыны — далікатныя істоты і ў многіх адносінах з недахопамі, асабліва ў параўнанні з жанчынамі. Тым не менш я тут не аказваюся здраднікам «мужчынскай справы» ці сакрэтным агентам фемінізму. У любым выпадку не хачу на старонках «Нівы» выклікаць бесталковай дыскусіі пра перавагу аднаго полу над іншым. Асабіста я абажаю жанчын, таму што яны прыгожыя і адважныя па сваёй прыродзе, а мужчын паважаю аднолькава, а таксама і самога сябе. Паводле мяне, абодва полы роўныя адзін аднаму і гэтак жа неацэнныя. Прынамсі, да таго часу, пакуль яны ставяцца адзін да аднаго як дзве палавінкі страчанага міфалагічнага праяблыка. Горш, калі яны, нарэшце, знойдуцца... і палавінкі не пасуюць. Але я аб гэтым не буду пустасловіць. Напэўна не пра канкурэнцыю ў каханні, сямейных спрэчках, няздзейсненых марах. Гэта вопыт большасці з нас. А чаму гэта так?!. Але хай там. Няхай гэтую праблему распрацоўваюць сямейныя псіхолагі, альбо філосафы. Я хачу ўзяць голас на зусім іншую тэму: смяротнасці.

Відаць простым вокам, што падляшскія вёскі выміраюць. Не зусім, аднак, але як бы палавінчата. У рэўматычных хатках дажываюць свае гады адзінокія, старыя жанчыны. Іх мужчыны адышлі — іх аднагодкі браты, мужы, суседзі. Такая тэндэнцыя наглядаецца не толькі на Падляшшы і не толькі ў краіне. Ва ўсім свеце, мужчыны паміраюць у першую чаргу. У маёй вёсцы, акрамя старых жанчын, засталіся толькі людзі сярэдняга, як маё, пакалення, і, што не такое частае, моладзь. Як гэтыя старыя жанчыны маюць з імі, з намі гаварыць? І аб чым? Сапраўды, вострa балючая адзінота старасці. Не знаходзіць яна з кім-небудзь агульнай мовы. З нікім не мае супольнай памяці. Ні адной радасці. Яна сама ў сабе — закрытая ў даўно мінулым свеце, неіснуючым для маладога пакалення. Як у Атлантыдзе прысутнай толькі ў міфалогіі старэчых слоў, няясмелых намёкаў і можа нерасказаных сноў. Але ці гэта не так, што кожнае пакаленне мае сваю ўласную Атлантыду? Атлантыду, якую ў выніку біялагічнай тэндэнцыі насяляюць старыя жанчыны?

Фактычна, што з пункту гледжання жыццяздольнасці мужчыны ўступаюць жанчынам. У вёсках Польшчы, Расіі і Беларусі значна. У гарадах гэтых краін гэтая розніца значна меншая. У заходніх краінах мінімальная, не кажучы ўжо пра тое, што сярэдняя працягласць жыцця ў гэтай частцы Еўропы на некалькі гадоў вышэйшая, чым ва ўсходняй. Сярэдняя розніца ў смяротнасці паміж мужчынамі і жанчынамі ў Польшчы складае восем гадоў — напісана так у справаздачы «Сярэдняя працягласць жыцця ў 2015 годзе», падрыхтаванай Галоўнай статыстычнай установай. Гэта шмат, ці мала? У 2015 годзе ў Польшчы мужчыны жылі ў сярэднім 73,6 года, а ў жанчыны 81,6 года. У васьмідзесяцігадовым узросце кожны год лічыцца як сто гадоў. Жанчыны ў сельскіх мясцовасцях Падляшша дажываюць у сярэднім да 82,5 года. Гэта на год даўжэй, чым у многіх іншых частках Польшчы. Гэта адпавядае, па старэчай меры часу, сотні гадам. Сто гадоў адзіноты гэта шмат, ці мала? Магчыма, што паводле расіянак мала. Іх сярэдні ўзрост складае ўсяго 76,5 года. Як і ўкраінак, і толькі крыху менш беларусак. Найкарацей сярод жанчын ва ўсім свеце жывуць жыхаркі невялікай афрыканскай краіны Сьера-Леоне. Сярэдняя працягласць іхняга жыцця не перавышае 51 года. Гэта шмат, ці мала? На гэтае пытанне могуць адказаць толькі тамашнія жанчыны, якія цяпер у маім, сярэднім узросце, а ўжо цалкам адзінокія і старыя. Яны таксама жылі ў Атлантыдзе. Таму што кожны чалавек мае або будзе мець сваю Атлантыду. А можна сказаць пра яе толькі адно, што існавала, не напэўна, верагодна, можа быць...

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Караеды — пушчанскія людаеды

Канікулы памаленьку набліжаюцца да канца. Той, хто яшчэ ў сацыяльных сетках не пахваліўся канікулярнымі фоткамі са сваіх вандровак, няхай хутка выпраўляе кампанейскую адсталасць. Такія часы і такія бываюць вызначэнні прэстыжнасці ў сённяшнім грамадстве. Відаць, не толькі рыба псуецца з галавы, але і часам пад чалавечай крышай не заўсёды бывае парадак. Каб быць зразумелым, адзначу, што я не супраць дзяліцца са светам, сябрамі ці знаёмымі адкрытай прыгажосцю ці жахлівасцю краявіду, пазнанымі іншымі культурамі і народамі ці пабачанымі незвычайнымі здарэннямі. Гэта бывае і цікавае, і павучальнае. Але празмернае сэлфі з самім сабою выходзіць часта па-за межы добрага густу і смаку. Але гэта такая ўскосная рэфлексія, калі раптам апынешся ў сеціве і прыгледзішся чым зараз яно жыве. Узнікла яна ў мяне таксама і пасля агляду здымкаў і прачытаных рэфлексій турыстаў з пабыўкі ў ваколіцах Белавежскай пушчы. Значыць, з вандроўкі па нашым беларускім свеце. Відавочная такая, агульнасусветная заканамернасць: свет зацікаўленняў і заўважаных праблем турыстамі зусім не перасякаецца з праблемамі мясцовых жыхароў. Пабываўшы некалькі дзён у бацькоўскім доме, тую разыходжанасць пабачыў я не толькі на свае вочы, але і адчуў уласнымі рукамі. Але па чарзе.

Перш-наперш паляцеў я ў родную вёску дапамагчы брату ў яго змаганні з вынікамі толькі што адляцелага нашэсця караеда-друкара на наш участак прыватнага лесу на ўскраіне Белавежскай пушчы. Караед менавіта маланкава, на працягу некалькіх месяцаў, засушыў і абгніліў пад дваццаць стогадовых елак. Таўстаствольныя і высокія любавалі вочы ўсіх нас. І ніхто іх праз столькі гадоў не кранаў і нават не думаў іх рушыць. А зараз праз караедаў прыйшлося стрымгалоў зрэзваць іх, расчышчаць лесасеку. Для брата яшчэ трэба чухаць галаву і думаць, што зрабіць з нечаканай драўнінай. Дрэва ўжо абясцэненае з-за пашкоджанасці і таму няма ахвотных купіць такі няякасны тавар. Добрай стályркі з гэтага напэўна таксама не будзе. Ахвярай караедаў сталі і суседскія лясныя ўчасткі са сваім яловым багаццем.

Такім чынам на маіх вачах ссякаліся апошнія сляды бежанства. Менавіта сто гадоў таму назад на апусцелых прыпушчанскіх палетках аднавяскоўцаў, якія падаліся на ўсход у 1915 годзе, самасейна завяліся пушчанскія дрэвы. І прыйшлося ім пасля веку падаць з грохатам не ад людской, але ад караедавай ненасытнасці. Дрэвы, у адрозненні ад людзей, паміраюць стоячы. Да ахвяр караедаў зляцеліся з усёй Польшчы нашчадкі вяскоўцаў, каб ратаваць рэшткі сваіх лясных участкаў. Ну і навесці парадак пасля атакі пушчанскіх «людаедаў». Некаторыя ўладальнікі не паехалі на раней запланаваныя канікулы, іншыя бралі спецыяльна водпускі. Сабраліся людзі сталага ўзросту і розных прафесій, але ўсе патомкі пушчанскіх сем'яў. Генетычна яны яшчэ ведаюць як дзейнічаць у змаганні з караедамі. Усе яны людзі адукаваныя і паклоннікі ахоўы прыроды. Аднак у адрас дасюлешніх дзеянняў у справе караедаў у пушчы, апрача ёмістай лаянкі, ставіліся таксама пытанні: а каму выгада ад такога дзеяння караедавага лобі?

Гаворка тут пра неабмежаваныя эксперыменты над жывым арганізмам, небяспечныя ўжо ў самой ідэі. Нараджаюць яны спакусы, якія супярэчаць біясістэмнай раўнавазе і мяжуюць са звычайным шаленствам, у якім ахвяры такога падыходу не цікавяць апалагетаў караедавай атакі. А тут аказваецца, што пад спецахову трапляе адзін з найбольшых пушчанскіх разбойнікаў, а прыгаворваныя да смерці елкі маюць дастаяць свой час у стакгольмскім сіндроме. З'яўленне караеда патрабуе актыўнай людской мабілізацыі і жорсткага адказу. Інакш поўнасцю атрымаецца яловы генацыд з чалавечай падачы. Станем тады проста саўдзельнікамі ў злачынстве. Прырода-звярыны свет любуецца ў самой ідэі забойства другіх гатункаў. Дрэвы памруць у маўчанні, але як магічна-татэмічная сіла нашых продкаў могуць адпомсціць сваю крыўду. А прыродная помста бязлітасная чалавеку.

**Яўген ВАПА**

# ТРЫВЕЖЫ – 375 ГАДОЎ



■ На святкаванні прыбылі перш за ўсё жыхары Трывежы і выхадцы з яе. У першым радзе войт Люцына Смактуновіч (чацвёртая злева) і запрошаныя госці

Ініцыятарам святкавання 375-годдзя Трывежы быў яе солтыс і заадно гмінны радны Канстанцін Салавянюк. Яго ідэю падтрымала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. Солтыс Салавянюк здаўна збірае гістарычныя матэрыялы аб Трывежы і наваколлі вёскі. Знайшоў ён доказы, што каралеўскі фальварак Трывеж пачаў будавацца ў 1641 годзе і даў пачатак вёсцы Трывежа, у якой сяліліся жыхары навакольных сёл, якія працавалі на землях фальварка. Дзесяць гадоў таму да 365-годдзя Трывежы Канстанцін Салавянюк паставіў перад вясковай святліцай помнік — з чырвонай цэглы змураваў тры вежы. 7 жніўня гэтага года многія жыхары Гайнаўскага павета падаліся ў Старое Корніна на святкаванні ў гонар св. праведнай Анны. Пасля абеду ахвотныя прыехалі ў Трывежу на гістарычна-забаўляльнае мерапрыемства, на якое прыбылі перш за ўсё жыхары вёскі і выхадцы з яе.

— Наш радны і солтыс Трывежы Канстанцін Салавянюк цікавіцца мясцовай гісторыяй здаўна, сабраў многа матэрыялаў аб Трывежы. Яшчэ ў мінулым годзе мы вырашылі арганізаваць мерапрыемства, прысвечанае гісторыі Трывежы. Я рада такім ініцыятывам, калі жыхары нашых вёсак хочуць нешта рабіць для свайго асяроддзя. Солтыс Канстанцін Салавянюк вылучаецца ў гэтым плане. Важна, каб гістарычныя весткі распаўсюдзіць сярод мясцовага насельніцтва. Сённяшняя імпрэза — добрая для гэтага нагода, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, якая адкрыла мерапрыемства.

Трывежскія святкаванні арганізавала войт Гайнаўскай гміны разам з солтысам Канстанцінам Салавянюком і Гмінным цэнтрам культуры ў Дубінах. Дырэктар цэнтра культуры Міраслава Маеўская-Іванюк зрабіла стаўку на выступленні мясцовых беларускіх калектываў і на атракцыёны для дзетак. На нестандартнае музычнае мерапрыемства з ухілам на мясцовую гісторыю прыбылі святары Ласінскага прыхода, да якога належыць Трывежа, настаяцель а. Юрый Кос і а. Аляксей Кулік, намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень, які выводзіцца з Трывежы, старшыня Гміннай рады Гайнаўскай гміны Яраслаў Кот з раднымі гэтай гміны, павятовы радны з суседніх Чыжык Андрэй Шварц, камендант Павятовай камендатуры Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Гайнаўцы Пётр Рыбак і камендант Следчага арышту ў Гайнаўцы Раман Пашко, які спяваў у калектыве «Гармонь» з Ласінкі. Солтыс Канстанцін Салавянюк зачытаў інфармацыю аб заснаванні фальварка Трывеж і паінфармаваў аб пазнейшых падзеях, якія спадарожнічалі гісторыі Трывежы. Імпрэзу вяла Магдалена Гаўрылюк, сёлетняя выпускніца Гайнаўскага белліцэя.

— Каралеўскі фальварак пачаў будавацца ў нас у 1641 годзе. Рашэнне аб будове было прынята год раней Адамам Казаноўскім, тадышнім бельскім старастам, які кіраваў таксама Бельскім лясніцтвам. Заснаваў ён каралеўскі фальварак Трывеж, назва якога выводзіцца ад трох вежаў на гербе «Гжымала» роду Казаноўскіх. У фальварку працавалі жыхары 17 навакольных сёл, якія сталі сяліцца каля яго і так паўстала наша вёска, якая стала называцца Трывежай. У гэтым назове важнае слова «тры», якое гучыць па-нашаму. У XVIII стагоддзі Бельскім стараствам упраўляў Ян Клеменс Браніцкі, які прымаў актыўны ўдзел у разбудове трывежскага фальварка. Лічыўся ён тады буйным пастаўшчыком збожжа, якое вывозілася ракой Нарвай і выкарыстоўвалася для вытворчасці гарэлкі. У састаў фальварка, які распасціраўся ад сённяшняй дарогі Трывежа — Катоўка, у напрамку рэчкі Локніцы, уваходзілі млыны, гадаваліся ў ім валы, свінні, а ў вёсцы была карчма. Яшчэ памятаю з дзяцінства стары калодзеж, абкладзены дубовымі *дылікамі*, што застаўся ад фальварка, у якім захоўвалася вада нават тады, калі ў вёсцы высыхала яна ў калодзежах, — сказаў Канстанцін Салавянюк. — Калі вярнуцца ў мінулае Трывежы і суседніх вёсак, то пабачым, што іх жыхары, хаця ў прошлым жылі на той самай тэрыторыі, то былі грамадзянамі розных дзяржаў. Землі, на якіх паўстала Трывежа, належалі да Вялікага

■ Пажарнікі арганізавалі моладзі спаборніцтвы





■ Дзесяць гадоў таму да 365-годдзя Трывежы солтыс Канстанцін Салавянюк (на здымку) перад вясковай святліцай паставіў помнік — з чырвонай цэглы змураваў тры вежы. 7 жніўня гэтага года быў ён суарганізатарам вясковага мерапрыемства

Княства Літоўскага, а пазней перайшлі ў межы Польскай Кароны. Калі пачаліся падзелы Рэчы Паспалітай, вёска апынулася ў Прусіі, а пасля больш за сто гадоў была ў межах Расіі. Пазней Трывежа знаходзілася ў II Рэчы Паспалітай, Савецкім Саюзе, на тэрыторыях акупаваных немцамі і ад 1945 года ізноў знаходзіцца ў межах Польшчы. Калі зараз некаторыя маладыя праваслаўныя, якія выводзяцца з беларускіх сем'яў гаворыць, што яны — палякі, бо нарадзіліся ў Польшчы, то як у мінулым мяняліся б нацыянальнасці жыхароў Трывежы, калі б тыя трымаліся згаданай тэорыі некаторых нашых маладых асоб, — адзначыў солтыс.

З 1886 года ў Трывежы дзейнічала «рухомая школа». У другой палове XIX стагоддзя ў Трывежы былі збудаваны два жылыя будынкі, якія захаваліся па сённяшні час. На асаблівую ўвагу заслугоўвае таксама драўляны дом багата аздоблены разнымі дэталямі. Узоры аздаблення хат трывежскія жыхары бачылі ў Расіі і, вярнуўшыся з бежанства, у якое падаліся за выключэннем дзвюх сем'яў амаль усе жыхары вёскі, выконвалі такую арнаментацыю на новаўзведзеных дамах. Аднак асноўная архітэктура дамоў перадавалася з пакалення ў пакаленне і мясцовыя майстры рабілі яе больш дасканалай. Жыхары Трывежы ў мінулым утрымліваліся галоўным чынам з земляробства, так як і людзі з суседніх вёсак. Зараз у Трывежы ў асноўным жывуць пенсіянеры.

— Ёсць у нашым сяле 4 буйных гаспадароў, якія займаюцца раслінаводствам і жывёлагадоўляй. Аднак зараз прыбытак ад продажу малака невялікі, бо плацяць за яго прыблізна па 70 грошаў за літр і таму жывёлагадоўля становіцца малапрыбытковай. Маладыя жыхары Трывежы даязджаюць на працу ў Гайнаўку і Бельск-Падляшскі. Аднак у прайшоўшым школьным годзе толькі адно дзіця з Трывежы даязджала ў школу. Ёсць яшчэ трое дзетак дашкольнага ўзросту, — патлумачыў солтыс Канстанцін Салавянюк.

Паводле спісаў насельніцтва ў 1911 годзе ў Трывежы было 29 дамоў, у якіх жылі 223 чалавекі. У 1921 годзе, пасля вяртання з бежанства, у 26 хатах жыло 113 асоб. Зараз у Трывежы ёсць некалькі новаўзведзеных дамоў, а лік усіх хат перавышае 30 і жыве ў іх каля 70 чалавек. Падчас Другой сусветнай вайны ў Трывежы былі знішчаны некалькі дамоў. Пасля вайны 4 сям'і выехалі ў БССР. Сельскагаспадарчы кааператыў дзейнічаў у Трывежы коратка і быў ліквідаваны.

У «Ніве» было надрукавана некалькі маіх артыкулаў аб планах пабудовы суполкай «Леер» прадпрыемства будаўнічай керамікі побач Трывежы. Суполка купіла ад мясцовых сялян каля 70 гектараў зямлі, пад якой знаходзяцца вялікія і вельмі якасныя залежы гліны. Вытворчасць цэглы мела пачацца ў 2012 годзе, але інвестыцыя не рушыла па сённяшні дзень.

— Вялікія залежы гліны каля Трывежы былі даследаваны і апісаны яшчэ пры сацыялізме. Я многа энергіі ўклаў, каб давесці да пабудовы керамічнага прадпрыемства, бо працу ў ім знайшлі б мясцовыя жыхары і можа пасяліліся б у нас прыезджыя, а вёска амаладзілася б. Керамічная суполка «Леер» купіла зямлю, былі выканаваны планы пабудовы керамічнага прадпрыемства. Уся інвестыцыя стрымалася, бо ў Трывежу няма газаправода, хаця былі спробы пракласці трубы з двух напрамкаў, — гаварыў Канстанцін Салавянюк.

— Я яшчэ і цяпер намагаюся давесці да пракладкі труб, якімі мог бы транспартавацца прыродны газ. Толькі пры такіх умовах суполка «Леер» будзе магла пачаць пабудову керамічнай фабрыкі каля Трывежы. Аднак няма канкрэтных рашэнняў у гэтай справе, — сказала войт Люцына Смактуновіч.

Арганізатары запрасілі ў Трывежу беларускія калектывы. Перад публікай запрэзентаваліся капела «Хутар» з Гарадка, калектывы «Чыжавяне» з Чыжоў, «Ручаёк» з Белавежы, «Верасы» з Чыжоў і «Гармонь» з Ласінкі. Выступіла таксама Юліта Кічкайла з Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы, якая спявае па-беларуску і на іншых славянскіх мовах. Донары аддавалі кроў, пажарнікі паказвалі сваю тэхніку і арганізавалі для моладзі спаборніцтвы.

— Дзеткі тут добра гуляюць і выконваюць цікавыя чучалы звяркоў. Падабаецца ім, калі я размалёўваю ім твары, — сказала спадарыня Ліля, якая займалася з дзеткамі.

Івона Кулік з бібліятэкі ў Дубінах прапанавала набыць за сімвалічныя залатоўкі кніжкі. Асаблівую зацікаўленасць публікі выклікаў веласіпед, які з выкарыстаннем шасцерань быў так перароблены, што калі рулём павярнуць направа, то пярэдняе кола паварочвалася налева. Ніводнаму мужчыну не ўдалося пад'ехаць на гэтым ровары. Сабраныя хвалілі ідэю арганізавання ў Трывежы фэсту, падчас якога гучалі свае песні, а сабраныя маглі даведацца аб гісторыі свайго сяла і паразмаўляць аб штодзённым жыцці.

— Сёння сабралася больш людзей, бо апошні дождж спыніў выезд камбайнаў на палі, — сказаў гаспадар з Чыжык.

Падчас сёлетняга дажджлівага надвор'я на Гайнаўшчыне кожныя бездаждлівыя перыяды выкарыстоўваліся для ўборкі збожжа. Калі я дабіраўся ў Трывежу, большасць збожжа па дарозе было яшчэ незмалочаным. Падчас наступнага недажджлівага дня камбайны працавалі ў Гайнаўскай гміне з раніцы да ночы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# У Мокрым на вуліцы суха!



Барбара Гаральчук і Юрый Баена



Сям'я Мартынюкоў

У гэты раз у восьмым запуску фэстаў Музея і асяродка беларускай культуры мерапрыемства «І там жывуць людзі» прайшло ў вёсцы Мокрае, што ў гміне Бельск-Падляшскі. У вёску на старадаўнім каралеўскім шляху, пра якую запісы маюцца з 1450 года, арганізатары прывезлі беларускіх спевакоў ды музейную крамку з беларускімі вырабамі і выданнямі. На лузе насупраць святліцы разбіты былі палаткі ды сцэна. На платах — выстава „Бельскі ручнік" ды старых здымкаў мясцовасці. І столічак з першай кнігай задумшчыцы імпрэзы Барбары Гаральчук:

— Гэта нашае свята, першы фэст такога кшталту ў нас. Не маглі ўжо дачакацца! Гэта свята для ўсёй вёскі. А для мяне — асабліва, бо я вельмі люблю маю вёску і мясцовых людзей, сюды неўзабаве вярнуся жыць. Гадоў трыццаць таму тут арганізоўвалі патанцоўкі. А больш не было такіх мерапрыемстваў, ужо так многа часу! Мерапрыемства сарганізаванае Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы і ўладамі Бельскай гміны пры падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. Вялікая ім падзяка!

Мокрае ўзнікла ў рамках Боцькаўскай маёмасці, якая належала Сапегам. Яе назоў упамінаецца ў 1577 годзе. Лёсы вёскі такія ж як і недалёкіх Кнарыд. Кнарыды разам з Мокрым былі вылучаны з Боцькаўсіх маёмасцей і з часам сталі часткай маёмасці Кнарыды-Падлесныя, якія належалі на пераломе XIX і XX стагоддзяў да сям'і Корсакаў. Адзін з іх быў царскім генералам. Раймунд Корсак у міжваенны перыяд засядаў у радзе гміны Дубяжын. У канцы XIX ст. існавала адпускная — вольная вёска Мокрае і фальварак пры вёсцы — уласнасць Корсакаў. Вёска Мокрае ў гміне Дубяжын у 1921 годзе налічвала 34 дамы і 170 жыхароў, у тым ліку 161 праваслаўных і 9 каталікаў. У 1954 годзе Мокрае стала сядзібай Грамадскай нарадовай рады. У склад грамады Мокрае ўвайшлі былі мясцовасці, вылучаныя з гміны Даброміль. Грамада існавала да 1959 года, затым была спалучана з грамадай Петшыково-Галомбкі, ствараючы новую грамаду Пілікі, — распавядаў Лешак Зугай у сваёй апрацоўцы «Гісторыя гміны Бельск-Падляшскі». А ў апошні час у самаўрадавых выбарах права на голас мела дзевяноста жыхароў. Хат тут больш за восемдзесят, раскінутых на паўтара кіламетра, падворкі шырокія, прасторныя. Дыхаецца лёгка, на поўныя грудзі. Сярод прыгожа апранутых гасцей — пажарнікі. Яны тут — гаспадары. І ўсе тут!

Добраахвотная пажарная каманда ўзнікла ў Мокрым у 1928 годзе. Актуальна пажарнікамі кіруе ўправа: Сцяпан Гуральчук, Славамір Нікіцюк, Тамаш Трафімюк, Мікалай Нікіцюк. Пажарнікі маюць найлепшае абсталяванне: прылады для пабудовы вогнетушыльных ліній, гэта значыць электрапомпу П-05, шлангі W-75 і W-52, фарсункі, калектары, засмоктваючыя шлангі... Пажарная каманда ў Мокрым налічвае 18 членаў. Каманда штогод прымае ўдзел у спартыўна-пажарніцкіх спаборніцтвах, арганізаваных у гміне Бельск-Падляшскі. Фарсяць таксама ў пажарніцкіх формах для дзвюх выратавальных каманд — у акуратнай святочнай форме пажарнікі-памочнікі адмыслова прадстаўлялі сваю спецыяльнасць на свяце. Нічога не тушылі, а распальвалі эмоцыі! Хвалілі родную вёску, хаця больш шасць з іх ужо даязджае на пажар (не дай Бог!) з Бельска.

Усе ганарацца на афіцыйным гмінным сайце і сёння рамонтам святліцы (2008 г.), мадэрнізацыяй вулічнага асвятлення (2010). Сапраўды, на Ганну вёска Мокрае залітая сонечным жнівеньскім — сёлета такім рэдкім! — святлом, у свежых, вільготных подыхах ветру ад лугоў, святочная і акуратная, прэзентуецца прыгожа. Аж хочацца тут жыць! І тут жывуць людзі!

Марк Карнілюк, старшыня Падляшскага генеалагічнага таварыства (ПГТ), дэманструе альбомы адсканаваных архіўных здымкаў жыхароў Мокрага. Вялікія здымкі завешаныя і на выставе і пры іх таксама гуртуюцца групкі жыхароў і іх гасцей, прабуючы распазнаць, хто на якім здымку са знаёмых, продкаў і сваякоў. Выкрыкваюць адны праз другіх, заглядваючы праз галовы на бляклыя партрэты і бытавыя ды святочныя сцэнкі з жыцця тутэйшых. Пазнаюць сябе маленькімі, школьнікамі, вясельнікамі. Было калісь тут вяселляў! А хто чый сваяк будзе? Усе тут пародненыя, свойскія. Відаць, выстава, як і ўся сустрэча, выклікае ахвоту пацікавіцца гісторыяй і генеалогіяй.

— О, пазнаю! Цёця Вера! А то я!

— Не, гэта не ты! — Ну, напісана ж — Вера і Ірэна! — А тут Маня Базылёва. Ірка Омэлянова! Нікіцюк. О, то Саша. Гуральчук Мікалай. Хлопцы з Мокрага. Я Юзьвюк. А імя якое? Майго бацькі ці дзеда? Я — Радэк! Бацька Славік, дзед — Мікалай. А прадзед Артэм...

— Наша ПГТ было заснавана дзякуючы запалу групы аматараў генеалогіі, якія раней ведалі адзін аднаго толькі са спісаў рассылкі, пасля сустрэліся асабіста, — расказвае Марк Карнілюк. — Ініцыятарамі стварэння таварыства былі яшчэ Ева Валінская і Славік Калодка. Пасля шматлікіх дыскусій пра форму таварыства ў маі 2014 года было прынята рашэнне заснаваць нашу асацыяцыю. Продкі большасці з нас проста жылі якраз на Падляшшы, але перш за ўсё мы падзяляем запал да пошуку сваіх уласных каранёў. Выступілі мы з лозунгам: «Калі хочаш, каб хтосьці зрабіў нешта для цябе, зрабі ў першую чаргу штосьці для іншых». Хочам садзейнічаць генеалагічным пошукам і актыўнай дапамогай заахвочваць усіх пачаткоўцаў генеалогіі, незалежна ад іх продкаў і іх сацыяльнага статусу або веравызнання. Наладжваем кантакт з нацыянальнымі і дыяцэзіяльнымі архівамі, і з дапамогай аблічбоўкі і індэксацыі клапоцімся пра тое, каб дакументы служылі наступным пакаленням як мага даўжэй. Хочам вырабіць у сябрах таварыства і сімпатыках генеалогіі свядомасць аб неацэнных гістарычных каштоўнасцях усялякіх архіўных матэрыялаў, якія павінны захоўвацца ў добрым стане як мага даўжэй. Заахвочваем нашых членаў, каб ахвотна супрацоўнічалі адзін з адным у генеалагічных пошуках, дзяліліся з усімі сваімі дасягненнямі і падтрымлівалі менш развітых шляхам актыўных кантактаў у дыскусіях. На сустрэчы запрашаем гасцей, якія абмяркоўваюць тэмы ў галіне генеалагічнага і гістарычнага мінулага Падляшша. У супрацоўніцтве з Дзяржаўным архівам у Беластоку, Беластоцкім епархіяльным архівам і Праваслаўным архівам у Беластоку, дзе захоўваецца шмат запісаў актаў грамадзянскага стану з Падляшша, робім імянныя паказальнікі, якія затым паслядоўна публікуюцца на нашым сайце. Займаемся таксама фатаграфаваннем надмагільляў на могілках у нашым рэгіёне і іх індэксацыяй. Індэксы ствараць нашу базу індэксаў могілак. Як арганізацыя мы не закрываем дзвярэй для тых, хто, як і мы, зацікаўлены ў генеалогіі...

Гурт зацікаўленых генеалогіяй, адным вухам слухаючы канцэрт, горача дзеліцца сваімі думкамі, успамінамі. А на сцэне на лузе выступаюць суседзі — «Родына» з Дубяжына, «Луна» з Парцава што аснаваная на пажарніках, «Бэнд» з Гайнаўкі Давіда Шымчука — студэнта крыміналагічнай хіміі, «Рэтра Бітс» з Гайнаўкі і «Арт-Пронар» з Нарвы. Ліецца вядомая беларуская песня. Гледачы падпяваюць.

— Просім акляскі! — заахвочвае вядучая яшчэ адным адмысловым варыянтам адабрэння выступаючых. А сабраныя вельмі цешацца святам — так даўно не было беларускага мерапрыемства ў гэтай культурнай вёсцы, дзе жывуць два вядомыя пісьменнікі, адкуль род вядуць вядомыя мастакі, як Маргарыта Дмітрук. Вёска баярская і вольных сялян. Сюды пасяліліся ў апошні час Славамір і Малгажата Рынкоўскія, каб сваю старую новую хатку ад Вольгі і Лукаша Нікіцюкоў узнавіць дошчачка па дошчачцы ў старым макранскім духу. Цешацца: «Мы ўжо не навалач, хаця варшавякі», а Славамір расслаўляе красу сваёй новай радзімы Падляшша на фатаграфіях. Зойдзем яшчэ пасля ва ўквечаную хатку з нумарам 24 пасярод доўгай вёскі.

— Многая лета! — першай падымае ноту войт Бельскай гміны Раіса Раецкая пажарнікам, хлопцам як дубы, усім у свежанькай элегантнай форме. За ёю пацягне солтыс Юрка Кандрацюк і радны Юры Хількевіч, і бургамістр Бельска Яраслаў Бароўскі, і сябры салэцкай рады... Увогуле, вельмі пра арганізацыю фэсту пастаралася і Бельская гміна, і вёска. Разварушыліся і сяляне, і госці.

— Дык хай гэтыя прыгажуны жэняцца, няхай нараджаюцца новыя пакаленні!

— І тут з Беластока ёсць людзі, а я родам з Дубяжына. Прыехала. Бо то па-суседску разам вучыліся, дужо знаёмых е, каляжанак і калегаў. І калектывы свае, міла іх паслухаць, — кажа спадарыня Клава Сліўка.

— А мы тутэйшыя, хаця ўжо моладзь не народжаная ў Мокрым, — адзначае сям'я Мартынюкоў

— Я ўжо раблю, а мая сяброўка Эльвіра — студэнтка! — кажа Тамаш з Кнаразоў, нарачоны іх дачкі. — Я таксама тутэйшы

— Прыехалі мы да бацькоў, о тут стаяць, — усміхаецца Эльвіра, паказваючы на сваіх маладых бацькоў.

— Ужо мы лічымся з Бельска. Родная хатка тут стаіць, мама жывуць, Вольга. Ужо не гаспадарыць, адно пару курачак гадуе. Хат у нас у Мокрым больш за восемдзесят. Калісь школа была, але не за майго часу. Адзін канец вёскі хадзіў пасля ў школу ў Дубяжын, другі — у Кнарыды. Вёска доўгая, хаты рэдка стаяць. Прасторна!

— От, імпрэза файная, адно што піва няма, — смяецца мужчына сярэдняга ўзросту, што трымаецца з калегамі бліжэй будынка святліцы. — Крамы няма. Па піва ў Дубяжын трэба ехаць. Але ж вырвешся з хаты, то і байкі забава!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Падбелянская нябесная сфера



**Невялікае і штодзень ціхае Падбелле штогод 2 жніўня становіцца месцам, у якім можна адчуць асаблівы клімат ажыўленасці. Якраз туды ў гэты час едуць ды крочаць праваслаўныя вернікі дзеля ўшанавання памяці святога прарока Ільі. У Падбеллі гэтае свята мае асаблівае значэнне, бо з'яўляецца прыхадскім — менавіта там знаходзіцца ўзведзеная ў 1876 годзе Свята-Ільінская царква.**

— Адзначаючы гэты дзень, у першую чаргу мы павінны мець свядомасць значэння святога і яго паводзін, — кажа вікарый Падбелянскага прыхода Марк Якімюк. — Несумненна асноўным элементам спецыфікі гэтага свята з'яўляецца асоба і дзейнасць прарока Ільі. Для ўсіх праваслаўных вернікаў з'яўляецца ён сімвалам магутнасці веры. У часы, калі людзі перасталі верыць у Бога і пачалі быць прыхільнікамі паганства, ён паказаў правільны шлях, па якім павінен крочыць чалавек. Аднойчы Ілья сказаў паганскаму жрацу: «Вы свайму Богу маліцеся, каб ён сышоў на вашу ахвяру, а я буду свайму». Паганцы танцавалі, спявалі, крычалі — такім чынам маліліся. Але Бог ім не аб'явіўся, не сышоў на ахвяру. А прарок Ілья загадаў тры разы паліць вадой сваю ахвяру, пачаў маліцца і праз момант бліснула маланка, якая ўдарыла ў яго ахвяру. І менавіта гэтая падзея паказала, які Бог ёсць справядлівы.

Хаця багаслужба ў саслужэнні духавенства з розных куткоў Беласточчыны пачынаецца ў 10.00 гадзін, вернікі напльвалі ў наваколле храма ўжо з самой раніцы. Маліліся ў храме, набіралі ваду з крыніцы, што побач з царквой ды проста, карыстаючыся нагодай сустрэчы, гутарылі. У паветры лунала атмасфера сяброўскай і сямейнай супольнасці. У гэты святочны дзень Падбелле наведалі не толькі мясцовыя прыхаджане:

— Хоць сам прыналежу да прыхода св. Архангела Міхаіла ў Вольцы-Выганоўскай, абавязковай лічу сваю прысутнасць тут, у Падбеллі, — кажа Ян Верамчук з Алекшаў, што ў Арлянскай гміне. — Адчуваю духоўную патрэбу пакланіцца вялікаму і магутнаму святому, якім з'яўляецца прарок Ілья. Нам, вернікам, вядомая яго асаблівая сіла. Карыстаючыся ёю, ён быў у змозе спыніць дождж ды выклікаць яго. Мы, праваслаўныя, шануем прарока і таму ў дзень свята спыняем усялякія палявыя працы. Затое молімся тады за дождж, а калі дажджу дастаткова, просім шчаслівага завяршэння жніва.

— Перш за ўсё гэта важны дзень у маёй парафіі. Пачынаючы з ранніх дзіцячых гадоў, я кожны год адзначаю гэтае свята, — кажа Малгажата Баршчэўская з Малліннік, — лічу яго важнай традыцыяй у сваім жыцці. Паводле мяне, людзі заносяць малітвы да святога Ільі, просяць быць здаровымі, каб шчасце і поспехі іх не апускалі. За тое малюся яму і я.

— Заступнікам царквы з'яўляецца якраз святы прарок Ілья. За 50 гадоў, якія я пражыла ў недалёкіх Кошках, кожны год святкую гэты дзень, — кажа Юлія Фіёнік, якая родам ад Тымянкі, што ў Сямятыцкім павеце. — Незалежна ад таго, што гэта прыхадское свята, яно важнае на ўсёй Беласточчыне. Да нядаўна я праводзіла гэты час актыўна, удзельнічала ў набажэнстве, спявала ў хоры. Аднак па прычыне хваробы ўжо амаль паўгода не пяю. Таму асабліва варта мне памаліцца нашаму святому.

Магутныя гукі званоў пачалі клікаць вернікаў у храм. Відавочнай была тады далікатная паспешнасць, з якой людзі кіраваліся на багаслужэнне. Унутры храма прыкмеціць можна было многа людзей сталага ўзросту, пенсіянераў, якія, мабыць, немалую частку свайго жыцця прысвячаюць спазнаванню веры. Адначасова хапала і тых маладых, якія, магчыма, штодзень заняты гонкай за грашыма і кар'ерай, вырашылі гэты дзень прысвяціць духоўнай сферы свайго існавання. Своеасаблівым сімвалам будучыні свята ў гонар прарока Ільі былі наймалодшыя вернікі, якія на руках сваіх бацькоў у набажэнстве, мабыць, удзельнічалі ўпершыню. Царква была запоўнена людзьмі амаль да берагоў. Таксама шматлюдны натоўп людзей знаходзіўся перад храмам, дзе ў атачэнні прыроды і свежага паветра вернікі слухалі пропаведзяў і напеваў хору.

— Адначасова нельга забываць, што ўшаноўванне памяці прарока Ільі гэта не толькі паўтары ці дзве гадзіны, праведзеныя ў час набажэнства, — лічыць айцец Марк Якімюк. — У нашай святой кнізе, у Свяшчэнным пісанні маем словы: «Сёмы дзень Госпаду Богу твайму», дык тут справа ў цэлым дні, не ў яго невялікай частцы. Мы павінны цэлы дзень маліцца святому Ілью, думаць пра асобу святога. Для нас ён з'яўляецца бастыёнам веры. І ён да нас крычыць у сённяшнія часы: «Не будзьце паганцамі, на пакланяйцеся злу, паганскаму богу Ваалу». Аднак мы, метафарычна кажучы, часта робім зусім іншае — мы гонім за багаццем, за грашыма, забываючы аб Богу. А ён звяртае ўвагу на такія нашы памылкі, прыпамінае нам аб сябе і веры, ссылаючы стыхійныя бедствы, прыкладна тарнада, землятрусы, гвалтоўныя буры. Гэта не пакаранне, а свайго роду напамін людзям аб іх памылках. На аснове гэтага варта зрабіць адпаведныя высновы.

Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА

# Янушу і пушчы

У Афрыцы вераць, што калі чалавек памірае, яго душа застаецца на зямлі, разам з блізкімі, назаўсёды. Асноўнае, каб гэту душу накарміць, напаіць, а часам і добра з ёю загуляць.

Драўляная хатка Януша Корбеля суседнічае з белавежскім скансэнам. Гэта добрае, сімбіятычнае суседства. У скансэне Януш адчуваў сябе «паміж сваімі». Памятаю нашы супольныя фотаздымачныя сесіі. Я ў старой беларускай спадніцы на фоне глінянай печкі, ручнікоў, радзюжак. Усё натуральна, без ніякага мейкапу. А яшчэ запрашаў мяне туды паспяваць старыя беларускія песні. Сам не спяваў, але вельмі любіў іх слухаць. Найлепш гучалі ў гумне, з падпевам разумных, шчырых, уражлівых людзей. Толькі такіх да сябе прываблівае.

І вось пасля яго смерці зноў я ў белавежскім скансэне. У гэты раз па запрашэнні яго добрай сяброўкі, рэжысёркі польскага тэлебачання Бэаты Гыжы-Чалпінскай.

Праязджаючы міма, прыкмячаю адкрытыя дзверы і вокны Янушавай хаты. Кажуць, што гаспадарыць у ёй цяпер «экатэрарысты». За парогам скансэна находзяць мяне ўспаміны. На фоне печкі здымаю ў гэты раз сваю сямігадовую дачку. Печка не змянілася, тыя ж самыя ручнікі, капы. Мяняюцца толькі людзі. Адны выходзяць, а на іх месца ўваходзяць іншыя. Часам пакідаюць свой след, а часам знікаюць бясследна. З гумна, як за добрых часоў з Янушам, далятаюць народныя спевы. «Капэла з вёскі Варшава» рыхтуецца да канцэрта для Януша і Белавежскай пушчы.

– Януш! – звяртаецца да яго, быццам на беларускіх дзядах, Бэата. – Мінулае аб'ядноўваецца з цяперашнім.

– Януш ёсць, ёсць у пушчы, – тлумачыць сабраным у гумне Бэата, – як кажа Адам Вайрак, ён недзе там дзяваецца, напэўна фатаграфуе: святло, якраз, самае лепшае.

На сцяне гумна няспешна мяняюцца здымкі з архіва Януша: буслы, зубры, дрэвы, яго хата, Бэата...

Зміцер Вайцюшкевіч не можа стрымаць слёз. Не хоча плакаць, таму што Януш ніколі не плакаў, прынамсі ў яго прысутнасці. Часта сустракаліся, найчасцей у белавежскай хаце. Януш прадаваў яго кружэлкі, на цагліны, на пабудову падгродзенскага агратурыстычнага хутара забароненага спевака. Братняя, спачувальная душа з другога боку мяжы ўзнеслася на неба, быццам пушчанскі птах. Засталіся сум і астылая, пустая хата. Зміцер прыехаў сёння спецыяльна для Януша і яго сяброў. Прывёз з сабой сумныя, сапраўдныя песні. Пасля канцэрта не застаўся на начлег, зразу вярнуўся на свой бок мяжы.

Януш – апошні з магікан, адзінокі рыцар Белавежскай пушчы. Яго любоў да прыроды праяўлялася ў фізічным болю. Раны, нанесеныя пушчы, былі яго ранамі.

Аднойчы сказаў Бэаце:

– Гэта кавалак майго сэрца, без дзікай прыроды я не ў змозе нічога стварыць. Дзікая прырода нас напаўняе, дае натхненне. Лес – гэта вялікая, непрачытаная кніга. Адзін індзеец прыгожа сказаў: «У дзікай прыродзе зміяшчаюцца адказы на пытанні, якіх мы яшчэ не паспелі задаць».

Вулканам энергіі назваў Януша філосаф Дар'юш Лішэўскі. Распавядаў пра эпізоды з іх больш чым дваццацігадовага сяброўства. Супольныя ночы, шпацыры па пушчы, праведзеныя на філасофскіх дыскусіях. Цягам жыцця Януш стварыў уласную філасофію. Дар'юш мяркуе, што менавіта гэтая філасофія была рэсурсам ягонай невычэрпнай энергіі. Узялася з прыроды – самай лепшай настаўніцы. Прыняў біяцэнтрызм замест антрапацэнтрызму. Стаяў не на версе прыроднай піраміды, але ў яе сярэдзіне, на роўні з матылькамі, чарвячкамі, свінкамі. Свядома адмаўляўся ад спажывання мяса – сваіх братоў і сясцёр. Дзесяць Божых запаведзей з гары Фавор замяніў на пабудаваныя на чыста акадэмічным падмурку законы экалогіі. Першы з іх: давярай прыродзе, яна ведае найлепш. Другі, усёабдымны – усё ў свеце цесна з сабой спалучаецца, быццам кроплі дажджу на павуціінні. Паварушыш яго ў адным месцы, а задрыжаць усе кроплі. Трэці – падзеямі кіруюць прычыны і вынікі. Кепскія ўчынкі можна адвярнуць добрымі. Як не старайся, раней ці пазней усё да цябе вернецца. Чацвёрты – каб зрабіць нешта добрае, неабходныя веды. Невуцтва і цемната ў жыцці не спраўджваюцца. І так далей, і таму падобнае....

Спачуваў і гэта спрыяла дапамозе іншым, у тым ліку прыродзе. Сур'ёзна падышоў да пастулата самаздзяйснення ўсіх жывых істот.

Яго галоўныя лозунгі:

– Кожны мае права на сваё жыццё, таму жыві і дазволь жыць іншым.

– Сціплыя сродкі, багатыя мэты.

Януш, вельмі нам тут цябе не хапае!

Іаанна ЧАБАН



фота Міры ЛУКШЫ

**Янушу Корбелю**

Ты заўсёды ў Белавежы застанешся,
калі зеляносцю вечнай ахінешся,
Браце пчолак і магутных дрэваў,
адазвешся ў салаўіных спевах.
Сцежкамі тваімі, што хадзіў па лесе,
вецер днём і ноччу закалыша вецце.
Ціхім сваім крокам, чутным вухам чулым,
ступіш каля тропаў, укрочыш у мінулае.
Час цяперашні заўсёдны, браце наш вялікі,
не пастарыць нашы душы, не адменіць лікі.
Дых і дух трапечуцца ў карэннях і ў кронах.
Голас твой ускалыша тоны ў белавежскіх звонах.

**Міра ЛУКША**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Юлія Бяганская, «Зорны шлях»

* * *

памятай
ты заўсёды будзеш
у маім сэрцы

памятай
ты ніколі не забудзеш
пра каханне

памятай
што нягледзячы на гора
я буду пры табе

памятай
што я памятаю
пра цябе

# Вершы Віктара Шведа



## Унук не папярэдзіў

Дзедка з унукам Андрэем
Крочаць паркавай алеяй.
Сеў на лаўцы дзедка Гена,
Унук на яго каленях.

Надта цешыцца дзядуля,
І да сэрца ўнука туліць.
Унук азваўся нечакана:
— Лаўка свежа малявана.

## Гожае падарожжа

У горадзе гулкім,
Праз некалькі вуліц,
Узяў на прагулку
Унук сваю бабулю.

— Дзякуй, каб ты ведаў,
Вось справа нязвыкла.
Упершыню еду
Я матацыклам!

# Мастацтва і пушча



Не кожны разумее, як цудоўна наблізіцца да карцін з роднай прыродай і забудовамі. Менавіта родная прырода і архітэктура — галоўны матыў карцін, якія пабачылі мы ў час вернісажу Міжнароднага мастацкага пленэру, які адбыўся ў днях 4-18 чэрвеня ў Нараўцы. Карціны ўзніклі на працягу некалькіх дзён і яны яшчэ «пахлі» лесам і рэчкай. Мы глядзелі на іх, і не верылі. Так! Там была Нараўка, Белавежская пушча, нашы цэрквы, а нават трактары...

Не менш цікава пабачыць жывых мастакоў. Мы мелі шчасце, бо нас сустрэў сам Віктар Кабац, мастак і арганізатар пленэру. Ён прысвяціў нам многа часу. Расказаў пра карціны і іх аўтараў. Сярод іх былі працы нашых старэйшых сяброў — Кацярыны Сянкевіч з Нарвы і Радаслава Мацієвіча з Беластока.

Хоць неба засланілі чорныя хмары і стаў ліць дождж, мы схаваліся пад дах, каб гаварыць пра мастацтва. Віктар Кабац расказаў наколькі важная для нас прырода і Белавежская пушча. Без пушчы мы нікому непатрэбны. Гэта дзеля яе прыязджаюць да нас людзі са свету, а мясцовыя людзі могуць весці пансіянаты.

Пушча гэта таксама крыніца натхнення. Яна дапамагае нам рабіць у жыцці прыгожыя, важныя і патрэбныя рэчы.

Нам было вельмі прыемна сустрэць так знакамітага мастака.

**Рэдакцыйны калектыў «Зорнага шляху»**

* * *

**Ёсць штосьці такое,
чаго не зразумееш.
Ёсць штосьці такое,
чаго не прагоніш.
Ёсць штосьці такое,
што так закруціць у галаве
і не паспеш таго затрымаць.
Ёсць штосьці такое,
чаго кожны дасведчыць у сваім жыцці,
А гэтае «штосьці» ты сам адкрываеш…**

**Уля Марчук, «Зорны шлях»**

# УВАГА КОНКУРС! № 35-16

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 28 жніўня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Ткач-ткачок
сеў на тоненькі сучок.
Павуцінне сваё праў
і на голейку навіваў.
Нітку да ніткі —
Камарам на світку.
П......**

**(Ларыса Геніюш)**

**Адказ на загадку № 32: баравік. Узнагароду, турыстычную карту і даведнік пра горад Беласток, выйграла Уля Марчук. Віншуем!**

# Бывае так, што тэмы выбіраюць людзей!

Размова з **_рэд. Ганнай Кандрацюк-Свярубскай,_** аўтаркай чатырох кніжак, між іншым даследчыцкай кніжкі «W stronę Tarasiewicza» пра забытага беларускага музыканта, выдадзенай у 2002 годзе.

**«Зорны шлях»**: — *Чаму Вы героем сваёй кніжкі выбралі Яна Тарасевіча? Адкуль ідэя, каб напісаць пра яго кніжку?*

**Ганна Кандрацюк-Свярубская:** — Тэму прапанавалі мне ў «Ніве», проста мне было па дарозе. У пачатку 1990-ых я жыла з дачкой на Сувальшчыне, пры сям'і мужа. Два разы ў тыдзень я даязджала ў Беласток, праз Саколку. Спачатку я баялася гэтай тэмы, не ведала як гэта ўсё падняць. Асоба Яна Тарасевіча была ахінута імглой забыцця. Словам — гэта была белая карта, якую трэба было запоўніць зместам. Але я не здавалася, ішла за падказкамі. На сваёй дарозе я сустракала людзей, якія адсылалі мяне да чарговых герояў і месцаў. Тэма крок па кроку развівалася. Адкрыванне асобы Яна Тарасевіча доўжылася ажно дзевяць гадоў. Гэта быў працавіты, але і цяжкі час, на маю галаву нечакана зваліліся праблемы. Аднак мне ўдалося скласці суцэльную біяграфію, закончыць тэму.

Думаю таксама, што не толькі мы выбіраем тэмы. Часам бывае так, што тэмы выбіраюць людзей.

**З.Ш:** — *Скажыце, як Вы знайшлі ўсе інфармацыі пра Яна Тарасевіча?*

**Г.К-С:** — Першая інфармацыя прыйшла ў «Ніву» з Мінска. Вучань Яна Тарасевіча, Анатоль Чарапінскі з Любліна, перадаў туды яго ноты і напісаў біяграфічную занатоўку пра свайго настаўніка. Гэта быў 1993 год, час вялікага адраджэння беларускай культуры. Ноты шчасліва трапілі ў рукі выдатнага спевака Віктара Скарабагатава, які належным чынам ацаніў геній Тарасевіча. Ён менавіта напісаў у «Ніву», каб пашукаць слядоў кампазітара, пахаванага на праваслаўных могілках у Саколцы.

Пасля гадоў, калі я пасябравала з панам Анатолем Чарапінскім, зразумела важную рэч. Бо ўсе гадалі: чаму ноты трапілі ў Мінск, а не ў Беласток ці Варшаву? Спадар Анатоль Чарапінскі, у прыватнасці лекар-псіхіятр і гісторык мастацтва, хоць сам быў польскім патрыётам, вельмі любіў Беларусь. Адчуваў беларускую душу. Невыпадкова. Яго дзед па лініі маці быў свядомым беларусам, які цаніў ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзед быў прадпрымальнікам, меў маёнтак непадалёк Гродна. Сямейныя сувязі надта важныя ў жыцці кожнага чалавека, яны часта ўплываюць на нашы выбары і матывацыю. Памятаю, з якой любоўю пан Чарапінскі ўспамінаў свайго дзеда. Вельмі перажываў і цешыўся, калі ў Мінску арганізавалі канцэрт Тарасевіча, калі выйшла мая кніжка, калі выйшаў дыск, калі тэма развівалася.

**З.Ш:** — *Усе думаюць, што пісаць кніжку гэта прыемнасць. Вы згадалі пра праблемы. Што гэта было?*

**Г.К-С:** — У пісанні — як на вайне! Калі закранаеш чуллівыя кропкі, сакрэты, штосьці абрываецца на галаву. На дарозе ўзнікаюць перашкоды, як пасля бурелому ў лесе. З Янам Тарасевічам было так, што яго яшчэ пры жыцці затапталі ў зямлю. Гэта зрабілі менш таленавітыя, зайздросныя людзі. Цяжка пісаць пра крыўду таленавітага чалавека, пра чорную зайздрасць. Я гэта ўсё старалася далікатна падаць, ды ўсё адхварэла. Адначасова, трэба было працаваць, дбаць пра сям'ю. Але мяне суправаджала нейкая рука, калі я была ў сітуацыі без выхаду, хтосьці з'яўляўся і дапамагаў. У якасці анёлаў ахоўнікаў найбольш прыслужыліся згаданы пан Анатоль Чарапінскі і Віталь Луба, тады сакратар «Нівы». Яны не дазволілі мне кінуць тэму ў палове дарогі.

Ганна Кандрацюк і Дыяна Нахіла апавядаюць пра Яна Тарасевіча

Малюнак Элізы Матус

Дадам, што гэтай тэмай я займалася дзевяць гадоў без ніякіх праектаў і дадатковых сродкаў. Дзякуючы гэтаму, я ведаю, што каб рабіць важныя рэчы, не трэба вялікіх грошай.

**З.Ш:** — *У 2002 годзе «Ніва» выдала Вам кніжку...*

**Г.К-С:** — Кніжка на польскай мове, таму што я напісала яе пад заказ польскага музычнага выдавецтва, якое раней выдала дыск з музыкай Тарасевіча. Калі кніжка была гатова, выдавецтва з-за праблем спыніла друкарскую дзейнасць. Тады насустрач выйшла «Ніва», якая ахвотна надрукавала маю кніжку. Такім чынам усё вярнулася на сваё месца. Пра значэнне гэтага выдання прамаўляе факт, што яна была перавыдадзена ў 2004 годзе. Зараз таксама ёсць патрэба трэцяга выдання, але ў мяне няма да гэтага галавы.

**З.Ш:** — *Як чытачы ўспрынялі кніжку?*

**Г.К-С:** — Энтузіястычна. Захоўваю цёплыя лісты ад Сакрата Яновіча і прафесара Адама Мальдзіса. Галоўнае, кніжка паслужыла для новых мастацкіх праектаў, з якіх найбольш цаню фільм-дакумент Юрыя Каліны «Jan Tarasiewicz. Kompozytor zapomniany", канцэрт Шымана Борыса ў Саколцы, нотнае выданне БГТ «Песні кахання», ці паэтычны том «Wiersze tutejsze» Міры Лукшы. Думаю, што кніжка паўплывала на тое, што маем вуліцу і таблíцу ў Саколцы ды *рондо* ў Беластоку. Усе біяграфічныя матэрыялы, якія друкуе і паказвае Падляшская опера і філармонія, з мае кніжкі і архіва, які перадаў на мае рукі пан Чарапінскі. Я магу ганарыцца тым, што калі новая кніжка жыве тыдзень або месяц а пасля ўсе пра яе забываюць, то мая першая кніжка далей актуальная, выклікае эмоцыі. Нядаўна я пабывала на сустрэчы з гімназістамі ў Саколцы і там так разгаварыліся, што проста не хацелі мяне адпусціць. Таксама на працягу дваццаці гадоў я атрымала незлічоную колькасць слоў падзякі ад людзей з Сакольшчыны ды не толькі. Многія з іх гаварылі, што чыталі кніжку два-тры разы. Я цешуся, што «Ніва» лічыць тэму Яна Тарасевіча адной з важнейшых у сваёй гісторыі.

**З.Ш:** — *Ці плануеце напісаць кніжку аб іншай вядомай асобе?*

**Г.К-С:** — Я напісала кніжку пра паэта Анатоля Сыса. Гэта не біяграфія, хутчэй падарожнае эсэ. Кніжка мае доўгі загаловак — «Дзядоўскае турнэ з Анатолем С.». Тут гісторыя сучаснага беларускага паэта, які быў пад уплывам «Дзядоў» Міцкевіча і сам сніў аб свабоднай Беларусі. Ведаеце, мне пашанцавала спраўляць праўдзівы абрад «дзядоў» у роднай хаце паэта, з яго сёстрамі і сваякамі. Гэта было пяць гадоў пасля смерці Анатоля Сыса, у палескай вёсцы Гарошкаў над Дняпром. Крытыкі адзначылі, што няма аналагаў для такой кніжкі ў беларускай літаратуры.

У будучыні хачу напісаць кніжку пра Анастасію Анацік, маю дваюрадную бабулю, якая была лётчыцай. І гэта будзе вялікі выклік, бо пра яе амаль нічога не ведаюць у сям'і. Аднак пасля кніжкі пра Яна Тарасевіча я ўжо так не трывожуся!

**З.Ш:** — *Дзякуем за размову!*

**Размову запісала**
**Наталля ВАСЬКО, «Зорны шлях»**

## Польска-беларуская крыжаванка

№ 35-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыгрaем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 31:**

Стол, жабка, ліпа, лоб, Пі, чарніца, зебра, марак, жыта. Суп, Іза, пол, ер, лічба. Парк, жара, на, бліны. Кол, забава.

Узнагароды, турыстычныя карты Беластока (кішэнная фармату), выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Osioł
Woda
Brzoskwinia
Dźwig
Adam
Pokolenie
Zapach
Wieloryb
Sfera
Łeb
Nerka
Pomidory
Tabor
Para
Jarzębinka
Bierz



# Вершы Юркі Баены

## Вялікі дзякуй табе, жыццё

Вялікі дзякуй табе, жыццё,
за шыр палёў,
за шапатлівыя словы васількоў,
за жнівень поўны каласоў,
за лесу сіні даляглад,
за ціхі ноччу зарапад,
за лівень светлай дабраты,
за ўзмах птушыных крыл.

Вялікі дзякуй табе, жыццё,
за бляск красы,
за смак слязы,
за кожны ўздым душы...

Плыве, плыве ад ясных хмар
любові сонечны рыдван.
На ўсіх зямных дарогах
знікае боль, адчай, трывога.

У краю мілым, дарагім
нікому хай не гаснуць дні.
Спяшацца трэба нам, сябры,
рабіць дабро...

Вялікі дзякуй табе, жыццё!

## Ніткі будучыні

З васьмі нітак выткана будучыня.

Сем нітак — сем красак радугі.
Чырвоная — гэта мужнасць і павага.
Аранжавая — цёплая, як дабрата.
Жоўтая — светлая, як сонца.
Зялёная — зямны шлях жыцця.
Сіняя — быццам высь нябесная.
Цёмнасіняя — сімвал свабоды і незалежнасці.
Фіялетавая — знак далікатнасці і элегантнасці.

Восьмая нітка — нябачная, неўявімая.
Яна — прывабная тайна
яшчэ непрысутнага,
яшчэ ненароджанага.

З веку ў век,
ад надзеі да надзеі
вядзе пакаленне за пакаленнем
ніць тая —
жывая,
несмяротная, святая...

## Прыйдзе мая вясна

Яшчэ прыйдзе мая вясна,
найпрыгажэйшая з прыгажунь,
вястунка шчасця і святла.
Сэрца прыбліжыцца да сэрца,
а да душы — душа.

Вясна і я
пабяжым басанож
да васільковых палёў
і сярэбраных рос.
Там, дзе ціша, глыбокая як збан,
дзе бессмяротнасці курган,
народзіцца ўнутры нас
царства нябёс.

На кветных лугах,
вянкі звіваючы,
букеты складаючы,
разам мы вып'ем, да самага дна,
таемны келіх поўны віна...

Прыйдзі, прыйдзі, мая ты вясна!

## Уладарка любві

Да цябе я ішоў нацянькі
каляінамі ледзь праходных дарог,
праз завеі і найглыбейшыя снягі.
Да цябе я ішоў нацянькі...

Цёмнай ноччу ізноў
не бярэ мяне сон.
Па бляшаных дахах
краплісты дождж барабаніць.
Вецер тузае кроны дрэў,
ламае саломінкі траў.
Усімі колерамі памяці
твой малюю я твар.

Зранку ў цішы лясной
звоняць галоўкі ландышаў.
У венах пульсуе кроў.
Цвітуць пацалункі з мінулых гадоў,
адзываецца слова „кахаю".

За зялёнай гарой,
за сіняй ракой,
пад ясным небам дазволь
сустрэць цябе яшчэ раз —

уладарка маёй любві,
царыца майго раю!

## * * *

На твары тваім адбілася
святло восені.
У песні ціхай,
вялікай, шчырай
адазваўся вырай.
На вейках
усё яшчэ іскрацца
кропелькі дажджу...

Мадонна радасці і смутку,
трывай так,
не прамінай, як цень.
Мы — дзве вечнасці,
якія сышліся
ў адзін найпрыгажэйшы дзень.

## * * *

У маскарадзе дня,
у лабірынце жыцця,
у звілінах часу
слухаю цішу.

На душу яна
нібы гаючы бальзам,
нібы срэбра — золата.

Сэрцам слухаю...
Нямнога мне трэба.
Найпрыгажэйшая мелодыя —
цішыня неба!

## * * *

У анталогіях сучаснай паэзіі
укараніўся
і разрастаецца песімізм.
Нябачна, быццам чума,
паўсюдна шырыцца нігілізм.

Свет змяніў свой твар.
Ён сёння са сталі,
бетону і шкла.

Падняўся акіян...

Найгаласней крычаць
словы-пігмеі.
Ніка высокіх барыкад —
на дне завеі.

Патэтычныя,
велічна прыгожыя сцэны.
Вечная трава.
Заўжды яна
ў абдымках шчасця
і надзеі.

## * * *

Падарыў мне дзень
некалькі слёз.

Душа прачнулася.
Пад вечар сонца ўсміхнулася.
Светлыя кроплі
паплылі ў ручайку...

# Спявала з маленства

Размова з Верай ОСЯК — жыхаркай Падляўкова, спявачкай у старaляўкоўскім мастацкім калектыве „Цаглінкі”.

***— Як пачалася Ваша прыгода з „Цаглінкамі”?***

— Пачалося ўсё ў 1976 годзе. Мы, з суседкай Нінай Сухадолай, выступілі ў Нараўцы на гмінным аглядзе беларускай песні. І мы там занялі першае месца. Ой! Цяпер у Гайнаўку трэба ехаць. А такая тады ўзнялася завіруха, што мы адно выехалі за Нараўку, застраглі і ў Гайнаўку не даехалі. Гэта было зімою, а вясной даведаўся пра нас Кастусь Майсеня і запрасіў нас у калектыў, які ён тут стварыў. Ён гаварыў: тут жа столькі народу, моладзі — нам трэба стварыць калектыў; ну і стварыў. І мы сталі хадзіць на заняткі.

***— А да „Цаглінак” то не было ў Ляўкове нейкага калектыву?***

— Быў, яшчэ Вася Целушэцкі сарганізаваў яго, з маладых-маладых. І яны ездзілі, выступалі, але пасля той калектыў распаўся, бо маладыя дзяўчаты пачалі замуж выходзіць.

Спярша нашым інструктарам быў Лукашук з Гайнаўкі — вельмі добры чалавек і педагог. Пасля ён адышоў, але наш хор астаўся. Сталі мы рыхтавацца да хрысцін нашага калектыву...

***— Калі гэта было?***

— У 1978 годзе...

***— Сама крышку падраслі...***

— Падраслі, сталі на ногі і ў Нараўцы святкавалі свае хрысціны.

***— А не ў Ляўкове?***

— У Ляўкове яшчэ нічога не было, толькі пазней пабудавалі святліцу грамадскім чынам. Ну, ахрысцілі, хрышчоным быў спадар Аляксандр Бандарук, а хрышчонай Галена Мялешка з Беластока, але я яе то і мала бачыла — на хрысцінах і столькі ўсяго, больш яна не прыязджала; запрашалі яе на саракагоддзе, але таксама не прыехала.

***— А як многа тады вас было ў „Цаглінках”?***

— Ой, але ж многа, бадай трыццаць пяць асоб: з Лешукоў, Міхнаўкі, Ляўкова, Капітаншчыны, але не было так як цяпер, што і з Бельска, і з Гайнаўкі... Цяпер нас, тых першых „Цаглінак”, толькі дзве асталіся: я і Марыся Русіновіч. Пасля даходзілі, напрыклад Ірэна Лапінская, якая з намі ўжо больш за дваццаць гадоў. Даходзілі малодшыя і тых маладых крышку маем...

***— Але маладыя свае, не з Гайнаўкі ці адкуль?***

— Свае, ад Ляўкова — Драўноўскія, і Сухадолы Янка дачка. І суседка мая была, Вітка Сухадолы дачка з прыгожым сапрана, і сынавая яго. Але што ж — дачка выйшла ў Бельск замуж, сынавая працуе, і двое дзяцей у яе, кажа: мне важныя сям'я і праца. Крышку людзей адыходзіць, але і новыя прыходзяць і я думаю, што калектыў будзе развівацца; думаю і хачу каб так было, каб развіваўся.

***— Мне Мікола Мяжэнны крышку расказваў пра гастролі, куды ездзілі...***

— Ой, мы ўжо хіба з тысячу разоў выязджалі...

***— Не можа быць!***

— Так, за гэтыя сорак гадоў то мы ўжо вельмі многа ездзілі.

***— А што з гэтых выездаў найбольш запамяталася?***

— Усё вельмі прыемнае, і хочацца ездзіць, бо нас усюды абвозяць: і ў Высокае, і ў Пружаны, і ў Ружаны. Прымуць нас, і абвядуць, пакажуць усё што найважнейшае. І гэта вельмі прыемна. Вось паехалі мы ў Высокае, было гэта ноччу, гэта незабыўнае. Было вельмі многа калектываў, многа моладзі, але і сталейшых таксама шмат было. Тады бадай пяцісотгоддзе Высокага адзначалі. Як мы выйшлі на сцэну, то там думалі — палякі, але як мы заспявалі, то нас не хацелі адпусціць са сцэны. Не переставалі апладзіраваць — яшчэ і яшчэ.

***— А чаму гэта было ноччу?***

— Бо было столькі калектываў, што аж цэлую ноч працягвалася свята. Наша чарга прыйшла каля поўначы, мы ўжо і сонныя былі, кажам: як заспяваем, так заспяваем. Але як заспявалі, то не хацелі нас адпусціць. І другі раз былі ў Высокім, і цяпер мелі ехаць, але не атрымалі мы аўтокара; бадай два тыдні таму мелі там быць. Усюды, усюды прыемна. А ў Гродне, на тых *падворках*, то і з цэлай Беларусі, і з Літвы, і з Латвіі прыязджаюць і ўсе свае вырабы паказваюць — якое то хараство!

***— А якія гэта вырабы?***

— А ўсялякія: і кошычкі, і *пальта*, і кажухі... Ну — усё там можна было купіць.

***— Гэтак вас прымалі і ў Высокім, і ў Гродне. А куды вы найдалей ездзілі: у Польшчы, Беларусі?..***

— Мы ездзілі і ў Германію. Было гэта як мы мелі далучыцца да Еўрасаюза. Прыехаў прадстаўнік з Бруселя, а тут у нас была выстава ручнікоў, макатак... Ён захапляўся...

***— Дзе гэта было: у Ляўкове ці ў Нараўцы?***

— У Ляўкове; а чаго нам да Нараўкі! Пры нагодзе: я дзівуюся, за што далі Варанецкаму адзнаку, ён жа не ў нас.

***— Але ён вам тэксты піша.***

— То няхай ён будзе ўдзячны, што мы хочам спяваць яго тэксты. А яго ж тэксты могуць спяваць усюды.

***— Але ён спяваць не разарвецца — яму ж у Нараўку бліжэй.***

— Але ж і ў Нараўцы могуць пісаць мелодыі да яго вершаў, так як у нас Мяжэнны робіць; і мы спяваем. Былі чатыры адзнакі, і, замест даць пані Русіновіч, далі яму; мне гэта не падабаецца.

***— Адносна Бруселя, мне зараз крыху вяртаецца памяць, што еўрапасол Каліноўскі выхадайнічаў візіт у Брусель.***

— Ён выхадайнічаў „Нараўчанкам”. А да нас прыехаў чалавек з Бруселя, які не ведаў нашых моў і мы з ім перагаворваліся з перакладчыкам. Ён захапляўся ўсім, што тут пабачыў. І мы паехалі ў Германію, але толькі дзве асобы: я і Лена Харкевіч.

***— А як называлася мясцовасць, у якой вы былі?***

— Не помню, але там вельмі прыгожа было. Мы не выступалі са спевам, толькі запрэзентаваліся ў нашых строях, сініх. І пасля ў тамашніх газетах было пра нас.

***— А можа ездзілі яшчэ ў Літву ці Украіну?***

— Не.

***— А ў Беларусь куды найдалей?***

— Туды, дзе Агінскі меў свой маёнтак, у Залессе, далёка за Мінскам (каля Смаргоні — А. В.). Як быў Марк Скамароўскі, то ён нам аформіў гэты выезд.

***— Можа Скамароўскі крыху з вамі спяваў?***

— Не, але бывае у нас.

***— І ўсюды вас так добра прымалі?***

— Ой, усюды. У Пружанах закватаравалі нас у гатэлі „Мухавец”, дзе можа толькі адных дыпламатаў там прымаюць.

***— А ў Польшчы?***

— Ездзілі мы пад Лодзь, і ў Быдгашчы былі. І зноў у Быдгашч паедзем. Там раней мы атрымалі гран-пры, а цяпер зноў едзем, бо ў Беластоку занялі першае месца сярод сеніёраў.

***— А што ў Польшчы Вам найбольш запамяталася?***

— Мне найбольш запамятаўся першы гала-канцэрт у філармоніі; яго ніколі не забуду. Ніколі мы яшчэ там не былі, а то заехалі, а там мноства людзей і прымаюць наша выступленне з захапленнем. Але ж вось выходзім на завяршальнае выступленне — „Люблю наш край, старонку гэту”. Усе паўставалі, а сэрца трапеча — няма слоў, каб выказаць якое гэта было хваляванне, калі ўсе спяваюць, і мы спяваем. А мне здавалася — а дзе ж я: ці я ў небе, ці я на зямлі! Гэта было ўпершыню і тое адчуванне незабыўнае. І цяпер былі на гала-канцэрце, у оперы, таксама файна было. Але гэта ўжо не тое. А тады ж было цудоўна. І гэта ж не ўсё было, бо адспявалі, а ўсе стаяць і апладзіруюць.

***— А як некуды далей ехалі, то таксама добра так прымалі і гасцілі?***

— Ну так гасцілі, што проста не расказаць. Было гэта ў Навасольнай каля Лодзі, летам, быў з намі калектыў „Росніца” з Гродна. Такі стол паставілі, што там усё было: і дзікі, і печаныя парасяты, і кумпякі — усё-ўсё, і кожны ішоў сабе і што хацеў тое браў. І сёлета туды запрашалі, але не атрымалася паехаць. Апошнім часам то і Беларускае таварыства не вельмі нас кліча — бяруць калектывы ад Беластока, а нас не. Нават у Бандары — то ж маглі б мы паехаць; у Бандарах толькі раз былі. Відаць, мы не надта вартыя, калі не запрашаюць...

***— А як Вы пачалі спяваць, бо, як кажаце, у Нараўцы адразу першае месца занялі...***

— Я спяваю з самых маладых гадоў. У школе спявала, з Насцяй Каролька, пазнейшай жонкай Кастуся Майсені. Мы разам вучыліся ў Беларускім ліцэі, у адной парце сядзелі і нас заўсёды прасілі спяваць. І бадай з чацвёртага класа спявала я ў царкве. Бацюшка ўзяў мяне і маю дваюрадную сястру ўзяў і кажа: ходзьце, манашачкі, ходзьце, спявайце.

***— Каторы бацюшка, Чыстоўскі?***

— Новік. А з Тамарай Чыстоўскага я сябравала. У царкве мы не спявалі са старэйшымі, наш хор спяваў асобна. Нашым рэгентам быў стары Новік, а ў старэйшых — малады. Але ж гэта быў бацюшка, як ён вёў хор, якія ён песні з намі развучваў... Як заспявалі „Хрыстос васкрэсе” — то ніхто і ніколі не будзе чуць такога! А тады ж не было магчымасці гэтага запісаць. Гэта было штосьці цудоўнае, як ён вёў наш хор. І пеўчыя якія былі, напрыклад Вера Пташынская, Люба Болбат, Зіна Несцярук. І мужчыны былі; і шмат ужо іх адышло...

І я вельмі хачу, каб наш калектыў утрымаўся. Набірае наш дырыжор і з Гайнаўкі, і з Бельска... Наш былы менеджар быў супраць, каб не набіраць звонку, каб свае, мясцовыя спявалі. Калі ён быў з намі, то мы выязджалі многа-многа. Цяпер Мяжэнны сам афармляе выезды. І наша кіраўнічка Галена Барташук...

***— Штось ад сябе можа скажаце...***

— За столькі гадоў, колькі я правяла ў „Цаглінках”, то я дзякую: нашым усім інструктарам за іх працу з намі, нашаму войту, які заўсёды нам спрыяў, усім нашым харыстам. А мне самой хіба трэба думаць пра адыход, бо ўжо гады і неяк няёмка на сцэну выходзіць. Аднак калі я ўдзельнічаю ў рэпетыцыях, то я падбадзёрваюся, у мяне ўступае жыццярадасны дух. Адна мая сяброўка гаворыць: знаеш, Вера, трэба ўлавіць момант, калі адысці. І я гэтыя яе словы маю на ўвазе. І здаецца, што ўжо гэтая пара наступае, а Мяжэнны кажа, што мне яшчэ не пара.

***— Калі так Мяжэнны кажа, то трэба трымацца.***

— І я вельмі хачу, каб калектыў трымаўся, бо столькі ж гадоў мы праспявалі, гэта многа.

***— І я за гэта, за гэтыя гады, Вам дзякую і жадаю Вам усялякага дабра.***



**Пытанні і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Беларуская Беласточчына ва ўспамінах і лістах Зоські Верас

*Чытаючы кнігу „Пакуль рука пяро трымае" Зоські Верас (укладанне, прадмова, каментарыі Міхася Скоблы, Мінск 2015).*

Мінскае выдавецтва „Лімарыус" парадавала чытачоў новым унікальным выданнем — кнігай успамінаў і лістоў Зоські Верас „Пакуль рука пяро трымае". Над кнігай дбайна папрацаваў руплівец на ніве вяртання спадчыны беларускіх літаратараў Міхась Скобла. Гэта другі том успамінаў і лістоў Зоські Верас, першы том „Я помню ўсё" выйшаў з друку ў 2013 годзе. І першы, і другі тамы рыхтаваў Міхась Скобла.

Беларуская пісьменніца, мемуарыстка, публіцыстка, лексікограф, перакладчыца, асветніца, калекцыянер і грамадская дзеячка Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая; 1892-1991) хоць і нарадзілася на Украіне на Жытоміршчыне ў сям'і вайскоўца і большую частку свайго жыцця пражыла пад Вільняй, заўсёды моцна любіла Беласточчыну, якую і лічыла сваёй маленькай радзімай. Менавіта беларуская Беласточчына скразной лініяй праходзіць праз усе ўспаміны і лісты пісьменніцы.

Першы раздзел кнігі „Пакуль рука пяро трымае" пачынаецца з успамінаў пра тое, як выдаваўся часопіс „Заранка", аб рэдакцыі грамадаўскіх газет, пра Ванду Лявіцкую, пра гісторыю беларускага адрыўнога календара, пра сустрэчы з Гальяшом Леўчыкам, пра Міхася Машару, пра аднадзёнку „Колас беларускай нівы", пра Родзевічаў і віленскія кірмашы, пра Варшаўскі гурток беларускай моладзі, пра беларускі лён і сустрэчы з паэтам Алесем Бачылам. Ва ўспамінах пра Гальяша Леўчыка Зоська Верас прыгадвае, як яна з маці тры гады жыла ў Менску, а пасля пяць гадоў на Сакольшчыне ў дзедавым фальварку, а ў 1923 годзе перабраліся ў Вільню. Пра сваю маці пісала Віталю Скалабану 18 снежня 1980 года: „Мая маці — Эмілія Людвікаўна з Садоўскіх Сівіцкая. Радзілася ў 1869 годзе ў Сакольшчыне. Бацька меў маленькі фальварак Альхоўнікі... Э. Л. Сівіцкая памерла ў 1944 годзе, маючы 75 гадоў".

Пра беларусаў Беласточчыны Зоська Верас прыгадвае амаль у кожным лісце да ўсіх знаёмых і сяброў, з кім яна перапісвалася ў XX стагоддзі. 5 красавіка 1966 года Зоська Верас пісала ў рэдакцыю газеты „Ніва": „Паважаная і дарагая рэдакцыя! Ад часу да часу пападаецца мне ў рукі „Ніва", а цяпер і каляндар за 1966 год. Дакладна ўсё чытаю і цешуся, а часам і сляза набягае на вочы, калі чытаю да болі родныя назвы мястэчкаў ды вёсак... Новы Двор, Сухаволя, Сідра. А можа, успаміналіся калі і Бернікі, Стрэльчыкі, Біты Камень і г.д. Ужо 43 гады я жыву ў Вільні, а ўсё для мяне тут чужое, а там, у Сакольшчыне, — роднае, дарагое...".

Наогул, па лістах бачна, што ўсё жыццё Зоська Верас сумавала па Беласточчыне, найперш па Сакольшчыне. У пісьме да Фёдара Янкоўскага (16 кастрычніка 1979 года) яна пісала: „Заўсёды шкадую, што якраз Сакольшчына адышла за мяжу. У Гродзенскім гуртку беларускай моладзі найбольш сяброў набіралася якраз адтуль, асабліва з ваколіцаў Сухаволі. І што важна, моладзь адтуль была зусім свядомая. Вельмі добра па-беларуску не толькі гаварылі, але і пісалі. А мова там была выключна цікавая і вельмі спецыфічная...".

У кнізе апублікавана сем пісем да першага рэдактара „Нівы" Георгія Валкавыцкага. У адным з пісем Зоська Верас піша, што атрымала ад рэдактара адказ, ад якога „павеяла на мяне духам Сакольшчыны", у іншым просіць парады: хто мог бы пашукаць слядоў Адама Бычкоўскага — першага старшыні Гарадзенскага беларускага гуртка, які быў родам з Беласточчыны?..

Ёсць у кнізе і лісты Зоські Верас да Казіміра Грынкевіча (1903-1988) — стрыечнага брата кс. Францішка Грынкевіча, заснавальніка Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі. Вучыўся ён у Гарадзенскай гімназіі. Падчас Другой сусветнай вайны трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк. Жыў у Новым Двары на Беласточчыне, займаўся сельскай гаспадаркай. Пісьмы Зоські Верас да Казіміра Грынкевіча перадаў Міхасю Скоблу яго ўнук Станіслаў Грынкевіч, які жыве ў Новым Двары на Беласточчыне.

Вельмі часта Зоська Верас у пісьмах хораша і светла распавядае пра сяброў Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі, які існаваў у Гародні ў 1909-1914 гадах. Сама яна шукае звестак, здагадак, фактаў пра іх жыццёвыя лёсы. У яе вельмі шмат пытаюцца пра Гарадзенскі гурток літаратуразнаўцы і гісторыкі. Пра Язэпа Лявіцкага з вёскі Хлеўск Дольны Сакольскага павета Зоська Верас кажа, што ён памёр ад тыфу. Толькі невядома: ці ў Маскве, ці ў Петраградзе. Пра Марысю Бобрык успамінае, што „скончыўшы 4-класную школу, перад школай медсёстраў яна цэлую зіму працавала вучыцелькай у нелегальнай школе ў вёсцы Бяляны Сакольскага павета. Вучыла па-польску (сяляне-каталікі гэтага хацелі) і па-беларуску". У лісце да Мікалая Марцінчыка 8 сакавіка 1978 года Зоська Верас напісала пра Адольфа Занюка: „Вы былі ў Новым Двары, а далей, у Сухаволі, Дуброве не былі? З Сухаволі паходзіў Адольф Занюк. Там было яшчэ шмат іншых свядомых беларусаў. Цяпер гэты куток, разам з Новым Дваром, зусім астаўлены на долю лёсу. Беластоцкая беларуская арганізацыя топчацца толькі каля Гайнаўкі ды крыху — каля Белавежы. А далей — ні носа...".

У адным з лістоў да паэта Сяргея Новіка-Пеюна ад 23 мая 1973 года Зоська Верас згадвае пра Яўгена Міклашэўскага (1936-2011; родам з вёскі Лыскі). У 1970-х гадах Яўген Міклашэўскі працаваў у часопісе „Родная прырода". Вось як пра яго піша Зоська Верас: „Сяння быў у мяне супрацоўнік „Роднай прыроды" Я. Міклашэўскі. Паміж іншым, добра гаворыць па-беларуску. Прасіў аб „Пчале" і „Беларускай борці" напісаць. Хацела яму паказаць статут „Пчалы" і не змагла знайсці, а пасля яго выхаду адразу знайшла. Такая была на сябе злая!..".

Лісты Зоські Верас, якія падрыхтаваў Міхась Скобла — гэта яшчэ адна старонка даследаванняў беларускай Беласточчыны, якую ўсё жыццё любіла незабыўная беларуска.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




# http://labadzenka.by

Цяжка сказаць, што б было з беларускай мовай, якую лукашэнкаўская ўлада абвясціла нягоднай для выказвання нечага разумнага, калі б не грамадскія руплівцы. Не выключана, што менавіта іх намаганнямі, мова яшчэ жыве і ёй аваладваюць тыя, хто прагне не забыцца на беларушчыну.

Адным з такіх дзеячаў-прасоўвальнікаў роднай мовы ў Беларусі варта назваць журналіста Глеба Лабадзенку, бо і яго дзеяннямі зараз рэалізуецца шэраг ініцыятыў па папулярызацыі беларускай мовы. Больш падрабязней пра іх можна даведацца, калі зазірнуць на сайт Лабадзенкі, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://labadzenka.by**.

Уласна сайт называецца блогам. Але для простага блога ён надта развіты, бо на ім ёсць і разнастайныя банеры, якія даваляюць перайсці як на іншыя рубрыкі гэтага сайта-блога, так і на іншыя сайты. Старонка Глеба Лабадзенкі таксама змяшчае даволі многа аздабленняў, мае шмат моўных версій, а таксама рубрык, па якіх размеркавана ўся інфармацыя.

„Гэты сайт — інтэрнэт-дзённік беларускага журналіста, паэта і грамадзкага дзеяча Глеба Лабадзенкі. Асноўны зьмест Блогу складаюць аўтарскія тэксты і фотаздымкі, а таксама публікацыі ў СМІ. Тэматыка Блогу — Беларусь, беларуская мова, культура, мастацтва, гісторыя, архітэктура, літаратура, сацыяльная сфэра", — так распавядаецца ў рубрыцы „Пра сайт", выйсце на якую месціцца ўверсе цэлага выяўлення.

Уласна пра журналіста распавядаецца на старонцы „Хто такі Глеб Лабадзенка?". Менавіта адсюль мы даведаемся, што ў яго сярод мноства іншых званняў і ўзнагарод ёсць прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча за кнігу «дзіцячая заМова», а таксама другое месца на фестывалі беларускамоўнай рэкламы ADNAK у 2013 годзе. У 2016 годзе Глеб Лабадзенка ў сааўтарстве з Алесяй Літвіноўскай выдаў кнігу «Мова Нанова: 20 крокаў да беларускай мовы».

Варта адзначыць, што „Мова Нанова" — унікальны для Беларусі праект. Пра яго „Ніва" пісала ў шостым нумары ад 9 лютага 2014 года і гэты сайт па-ранейшаму функцыянуе. Да таго ж банер на яго месціцца і на лабадзенкаўскім сайце.

Цікавымі для карыстальніка будуць старонкі, дзе распавядаецца пра беларускую архітэктуру, падарожжы па Беларусі і Еўропе, журналісцкія матэрыялы аўтарства Лабадзенкі, якія былі апублікаваны на разнастайных рэсурсах.

На сваім сайце журналіст выступае таксама як распаўсюднік кніг, прычым як сваёй «дзіцячай заМовы», так і твораў Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна. Для таго, каб іх заказаць, варта зайсці на адпаведную старонку праз банер „Унікальныя беларускія кнігі".

Немагчыма абысці ўвагай так званы „Белы спіс беларускай мовы". „Гэта — дайджэст рубрыкі „Мова", куды ўжо цягам некалькіх гадоў чытачы дасылаюць заўважаныя прыклады беларускай мовы на таварах ці паслугах. Некаторыя кампаніі ці тавары маюць толькі беларускую назву. Некаторыя — беларускія анатацыю ці зьмест. Недзе напісана дасканала, недзе — з памылкамі, недзе ўвогуле на трасянцы. Усе пункты сьпісу аб'ядноўвае адно — яны зрабілі крок у бок беларускай мовы", — распавядаецца ў анатацыі да „белага спісу".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара

Дата з календара

Дата з календара

Дата з календара

### Беларускі дзеяч — ахвяра бандытаў



# 110 гадоў з дня нараджэння Юльяна Саковіча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Юльян Саковіч нарадзіўся 24 жніўня 1906 г. у фальварку Баўдыры Ашмянскага павета. Паходзіў з заможнай сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, потым вучыўся на аграномічным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Быў звязаны з камуністычным рухам Заходняй Беларусі. За падпольную дзейнасць тагачаснымі польскімі ўладамі выключаны з універсітэта. Упершыню быў арыштаваны ў 19 гадоў. Пазней далучыўся да КПЗБ.

У 1929 г. Саковіч выдаваў у Вільні разам з Германам Вялецкім часопіс «Вольная думка» — орган беларускага студэнцтва. Арыштаваны ў 1933 г. і на працэсе над кіраўніцтвам Таварыства беларускай школы прыгавораны да трох гадоў турмы. Напярэдадні вайны арыштаваны і зняволены ў канцлагеры Бяроза-Картузская.

Людзі такога гарту і перакананняў пакутавалі за Беларусь пры любой уладзе. Увосень 1939 г. пасля ўз'яднання Беларусі савецкія «вызваліцелі», ледзьве паспеўшы выпусціць Саковіча на волю, арыштавалі яго на Віленшчыне і пасадзілі ўжо ў сваю турму. У жніўні 1941 г. на Смаргоншчыне Юльяна, які дзіўным чынам выратаваўся з засценкаў НКВД, схапіла польская паліцыя, што была на службе ў немцаў.

Саковіч досыць істотна змяніў свае левыя погляды, далучыўся да падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі. Кіраваў Менскім акруговым камітэтам БНП. Быў начальнікам менскай паліцыі, працаваў у Беларускай народнай самапомачы. З чэрвеня 1943 г. — акруговы старшыня БНС у Лідзе. Неадназорна пратэставаў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі супраць знішчэння мірнага жыхарства і палення вёсак, імкнуўся ратаваць насельніцтва.

Неўзабаве Юльян Саковіч разам з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім і Усеваладам Родзькам стаў арганізатарам антынацысцкага нацыянальнага падполля. Вясною 1943 г. Беларуская незалежніцкая партыя планавала паўстанне, збройнымі сіламі якога даручана было камандаваць Саковічу, кіраўніку легальнай Беларускай народнай самапомачы ў Менскай акрузе і аднаму з кіраўнікоў нелегальнай БНП. А пакуль тое, ён адказваў за зброю, якую здабывалі рознымі шляхамі. Даследнік гісторыі Сяргей Ёрш піша, да прыкладу, пра мех залатых манет, якія Саковіч атрымаў ад Родзькі і дзеля захавання перадаў двум знаёмым святарам. На другі год вайны ён увайшоў у штаб фармавання вайсковых аддзелаў Беларускай самаахобы, але ў красавіку 1943 г. немцы яе ўжо распусцілі. Яшчэ на Каляды 1942 г. СД арыштавала і ў той самы дзень расстраляла ксяндза Гадлеўскага. Паўстанне фатальна зрывалася. Самога Саковіча за публічныя пратэсты супроць рэпрэсій над мірным насельніцтвам акупанты выслалі на Лідчыну.

Забіты польскімі бандытамі невядома якой прыналежнасці (вельмі верагодна мясцовымі акаўцамі) у Васілішках 13 чэрвеня 1943 г., пахаваны на праваслаўных могілках Ліды.

Усе гэтыя падзеі — атрыманне «залатога запасу» БНП, таямнічая смерць аднаго са святароў, якому была перададзеная частка золата, забойства самога Саковіча, заможнае жыццё сям'і іншага святара — выцягваюцца ў ланцужок загадак, над якімі і сёння б'юцца гісторыкі беларускага Супраціву часоў апошняй вайны.

Зразумела, што ў сённяшняй наскрозь прасавецкай Беларусі Юльян Саковіч — чалавек, які ў свой трагічны час імкнуўся аб'яднаць увесь беларускі нацыянальны актыў і скіраваць агульныя высілкі на змаганне за дзяржаўную незалежнасць Беларусі, не ўшанаваны ніяк.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

# Раман Маліноўскі робіць новыя макеты

Жыхар Нараўкі Раман Маліноўскі найперш з запалак рабіў макеты прыгожых вясковых драўляных дамоў з цікавай архітэктурнай развязкай. Былі яны ўсе ўдалыя і прыгожыя. Паказаў іх на выстаўцы ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. Наведвальнікам гэтай установы культуры яны спадабаліся. Пасля склейваў з планачак з фанеры з ліставых дрэў не адзін мініяцюрны макет колішняга драўлянага касцёла ў Нараўцы, у якім вернікі маліліся ад 1914 года да ліпеня 1965 года.

На працягу двух гадоў рабіў вялікі макет даўняга белавежскага царскага палаца. Цары прыязджалі ў пушчу на вялікія паляванні і ў Белавежы пабудавалі сабе палац. Па іх загадзе ў Белавежу была пракладзена чыгунка.

У нараўчаніна Рамана Маліноўскага вялікае захапленне да працы над макетамі аб'ектаў з цікавай архітэктурай. Такому занятку прысвячае вельмі многа часу. Часта працуе ноччу, неаднойчы да самой раніцы. Зараз канструктар-самавук закончыў «пабудову» макета парафіяльнай царквы ў Нараўцы. Сёлета да канца жніўня закончыць таксама рабіць невялікі макет колішняй нараўчанскай сінагогі. Мае для гэтага неабходныя матэрыялы і спецыяльныя прылады. У яго таксама дастаткова ахвоты да сваёй любімай працы.

Варта дадаць, што макеты белавежскага царскага палаца, нараўчанскай парафіяльнай царквы, колішняга драўлянага касцёла, сінагогі (як бачым, тут поўны экуменізм) і іншых аб'ектаў зараз Раман Маліноўскі мае ў сваёй хаце ў Нараўцы і да яго наведваюцца турысты і зацікаўленыя макетамі асобы.

❖Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА





# Гляджу і ўспамінаю (2)

Бацькі нашы памерлі даўным-даўно, сёстры таксама. З сям'і, якая налічвала шэсць чалавек, у Кузаве засталіся мы двое — я і брат Віктар, 73-гадовы пенсіянер-чыгуначнік. Суродзічы па бацьку пражываюць у Дабрывадзе (адтуль ён выходзіў), а па матулі — у Беларусі. Гэтых астатніх неаднойчы прыходзілася наведваць па раздзяленні краін дзяржаўнай мяжою. Апошнім разам гасцяваў я з пляменніцай Ларысай (пакойнай ужо) у 2005 годзе ў Юўсічах у дваюраднай сястры Олі Раманюк. Тады разам наведалі мы могільнік у Вярховічах, дзе пакояцца астанкі дзядзькі Косці, цёткі Лідзіі, іхніх дачок з мужамі — Марыі і Мікалая Панасюкоў ды Таццяны і Аляксея Кандрацюкоў. З сям'і Селяхаў (адтуль выходзяць карані маці) жылі тады адно сястра Оля ў Юўсічах, што за Калінкавічамі, ды братуха Васіль у Вярховічах. Ад апошняга наведвання сямейнікаў мінула больш за дзесяць гадоў. Не ведаю, ці застаюцца яны ў жывых.

З Васілём мне не прыйшлося сустрэцца, паколькі знаходзіўся ў шпіталі ў Брэсце. А зараз мяжа раздзяляе нас, як і шматлікія сем'і ў прыгранічнай зоне. І хоць у Чаромсе працуюць два пагранпераходы — чыгуначны і дарожны — брак дамовы аб малым прыгранічным руху з Беларуссю не дазваляе штодзень сустракацца. Застаюцца адно ўспаміны па суродзічах і пажаўцелыя фатаграфіі з дамашняга альбома.

Вось чарговы здымак: дзядзька Косця Селях (першы справа), побач сын Аляксандр з жонкай (імя не захавалася ў памяці), затым Марыя — нявестка з сынам Васілём. З Аляксандрам не прыходзілася мне сустрэцца, паколькі быў ён вывезены ў Сібір і там пражываў з сям'ёю. Быў хрышчоным сынам маёй маці. У сямідзясятыя гады на кароткі час завязалася ў нас перапіска, але хутка абарвалася. Затым запамятаўся ён мне адно са старога здымка. А дзядзька Кастусь быў вядомым цесляром. У пасляваенны час будаваў не толькі дамы сялянам, але і пагранзаставы ў прыгранічнай зоне. Быў добразычлівым і спагадлівым чалавекам і карыстаўся пашанай у аднавяскоўцаў. Такім мне захаваўся ў памяці, калі наведваў я Апаку-Малую (Дварэц, як називалі) у сямідзясятыя гады з пакойнай сястрой Яўгеніяй. Сядзеў тады я побач дзядзькавай хаты ды спаглядаў на комін чаромхаўскай насычальні. Бо з Апакі ў Чаромху — рукой падаць. За паўгадзіны пехатою можна было прашлёпаць...

Такі ўжо, мабыць, чалавечы лёс. У маладосці можна было ўсе цяжкасці пераадолець. У сталым узросце, пры ненайлепшым здароўі, прыходзіцца ў адзіноце дажываць старасці.

❖Уладзімір СІДАРУК

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. прозвішча нямецкага кампазітара, аўтара „Брандэнбургскіх канцэртаў" = 4 _ 11 _ 1 _;
2. да протаіерэя = 6 _ 26 _ 23 _ 8 _ 9 _;
3. мэтанакіравана сфармаваны вобраз нейкай асобы, *image* = 16 _ 12 _ 13 _ 10 _ 7 _;
4. партнёр кошкі = 15 _ 3 _ 2 _;
5. Уладзімір, беларускі гісторык (1878-1947) = 24 _ 20 _ 21 _ 22 _ 17 _ 25 _;
6. пласт = 14 _ 5 _ 18 _ 19 _.

**(ш)**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Гуляка, Курытыба, бюст, гадзіна, Ялта, дачка, загон, Ева, акно, Леў, ніз, Гюго, арэал, ю, ачаг, Якаў, алмаз, лад, ліпа, дзік, Амерыка, дах, Азія, праца, Пелапанес, пах, лотаць, дзіда, саван, адзінец, дзюба.

Рашэнне: **Як была я дзевачкаю, ка мне хадзілі з гарэлачкаю, а як стала маладзіцаю, не сталі хадзіць і з вадзіцаю**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 28.08 — 03.09

**(22.03. — 20.04.)** 26-30.08. атрымаеш прывабнае запрашэнне. Афармляй важныя справы. Хопіць сродкаў на адпачынак. Разважвай словы, каб не пакрыўдзіць каго-небудзь вывалакаючы на святло старыя справы. Вельмі добры час на афармленне фінансавых і спраў, і ва ўстановах, а таксама для кваліфікацыйных размоў. Акажацца, што ты незаменны, неацэнны і сапраўды асаблівы.

**(21.04. — 21.05.)** Адчуеш, што выходзіш на простую дарогу. 25-30.08. выкарыстаеш свае таленты і звернеш на сябе ўвагу важных персон. Быкі з трэцяй дэкады: чакае вас асаблівая прыхільнасць Юпітара — экстрапрэмія, павышэнне, інвестуйце ў рэкламу, новае абсталяванне, аўто. Ежце як найменш цукру і солі.

**(22.05. — 22.06.)** 26-30.08. твае аргументы пераканаюць кожнага. Станеш вока ў вока перад сапраўды цяжкім праціўнікам. Вельмі клапаціся аб свае ступакі. Хадзі басанож па пяску, мачы ў марской вадзе. Правер форму сваіх нырак. Магчымыя праблемы з суставамі. Катайся на ровары, хаця б па 15 хвілін (лішне не натужвайся), знайдзі кожны дзень ладны момант на адпачынак.

**(23.06. — 23.07.)** 27-28.08. чакае цябе жыццёвы экзамен, які здасі на пяць з плюсам. Пачнеш сам сябе добра ацэньваць. Дай сябе вывалачы з хаты! У фінансах паявяцца новыя нагоды, прымай пад увагу кожную інфармацыю і выкарыстоўвай яе. Шчасце табе спрыяе, варта рызыкнуць, але не дай сябе ўцягнуць у азарт. Еж ягады, але добра іх мый.

**(24.07. — 23.08.)** Неба табе спрыяе, дык будзеш цешыцца. Можаш рызыкнуць, усё павінна ўдацца. Не спачывай, аднак, на лаўрах, падымай перакладзіну да скоку яшчэ вышэй. Марс прыцягне да цябе ўвагу адваротнага полу. У падарожжы пазнаёмішся з вельмі файнымі людзьмі. Шэф скажа, што ты проста неацэнны і незаменны на працы. Калі шукаеш працы ці супольніка ў бізнесе, не бяры ўсяго, што табе запрапануюць.

**(24.08. — 23.09.)** Зможаш пераносіць горы! 26-30.08. — час спрыяе інтымным сувязям з партнёрам. 27-28.08. вельмі пільнуйся ад звяроў — могуць цябе пакусаць ці ўджаліць. Залагодзіш канфлікты, калі ў час сустрэчы распыліш пах язміну. Справішся з хатнім бюджэтам. Застрахуйся.

**(24.09. — 23.10.)** 27-30.08. размова, якой так баішся, акажацца быць вельмі мілай. Пасля 30.08. людзі пачнуць да цябе ліпнуць. Дома правядзі змены, незалежна ад пратэстаў радні. Памятай, што калі просіш кагосьці дапамогі, даеш яму магчымасць уварвання ў тваё жыццё. Можа лепш аднаму вырашаць свае праблемы? Еж ігрушы, таксама дзічкі.

**(24.10. — 22.11.)** Хвацкае здароўе. Можаш паглынацца ў працу, цалкам аддаваць сябе сям'і — зараз фізічная актыўнасць на вышыні. Прабяжыся раніцай. У дапамогу сезонныя гародніна і садавіна. Не трэба баяцца брацца адразу за некалькі спраў — усё будзе атрымлівацца найлепшым чынам. Бярыся за справы, якія прыносіць радасць.

**(23.11. — 22.12.)** Звярні ўвагу на здароўе. Асабліва могуць пацярпець кішэчнік, страўнік, лёгкія і рукі, лепш сцерагчыся вострых прадметаў і не займайся цяжкай працай. Займайся лёгкім спортам, шпацыруй. Моцнае маральнае і фізічнае напружанне можа прывесці да сур'ёзных збояў у працы арганізма. Не варта абяцаць зрабіць больш, чым па сілах — усё павінна быць у меру.

**(23.12. — 20.01.)** 27-28.08 пагражаюць табе пераломы. Удалы перыяд для падарожжаў, рэалізацыі творчых ідэй, удзелу ў спартыўных мерапрыемствах. Сур'ёзна пастаўся да прапановы ўдзельнічаць у творчых конкурсах і фестывалях, акцыях.

**(21.01. — 19.02.)** Твае словы могуць моцна параніць ці, наадварот, дабратворна ўплываць на людзей. Таму ўзважвай усе за і супраць, перш чым выказаць сваё меркаванне. Асаблівую ўвагу надай пабудове мірных узаемаадносін з суседзямі, сваякамі. Часцей успамінай пазітыўныя моманты сумеснага жыцця і не акцэнтуй увагу на негатыўных.

**(20.02. — 21.03.)** Маеш усе шанцы на ўстойлівы і псіхалагічны камфорт у партнёрскіх і сямейных справах. Пасля 25 жніўня твае ідэі і прывабнасць здольныя прыцягваць увагу высокапастаўленых асоб. З такой дапамогай будзе значна лягчэй дасягнуць вызначаныя мэты. Творчы або духоўны саюз можа адкрыць для цябе новыя і павабныя перспектывы ў партнёрстве, раскрыцці прафесійных талентаў, задавальненні сваіх матэрыяльных амбіцый. Але неабходна кантраляваць празмерную імпульсіўнасць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (53)



Калектыў з сяла Варакомля

«Лэбскія забавы» можна параўнаць да беларускіх фэстаў у Рыбалах ці ў Трасцянцы, хоць яны здаліся весялейшымі за нашы. Па простай прычыне. На свята скаціла ўся кавалерка з наваколля і яшчэ хмара дзяцей. За плячыма публікі наладзілі яны сваю забаву, акрашаную колкімі каментарыямі, смехам і піскам. Старэйшыя цёткі што і раз грамілі іх позіркамі і суцішалі:

– Не буянь, бо дастанеш у ср...!

У іх папроках адчуваліся мацярынскі клопат і цеплыня.

Я таксама адчувала сябе як дзіцятка, карацей кажучы, інфармацыя і знаёмствы былі мне пададзены на элегантным падносе. Яшчэ да выступленняў я пазнаёмілася з чатырма калектывамі. Праспявалі яны па дзве-тры песні, якія самі па сабе прадстаўлялі апрацаваны фальклор, звычайна з лёгкім гумарыстычна-сексуальным зместам.

– А ягадныя песні ведаеце? – спытала я ў жанчыны з “Прыданкоў” з сяла Гута-Баравенская.

– Ог-го-го! – пачулася ў адказ.

Яшчэ больш звабілі мяне імёны спевакоў, тут былі баба Маня, Вера, Ніна, Насця, Іван, дзве Гандзі і двух Коляў. Паколькі “Прыданкі” першымі выступалі на сцэне, мы дамовіліся на песні ў спецыяльнай бясецы ўжо пасля афіцыйнай праграмы. У якасці запрашэння прагучала пляменна-бяседная песня. Яе змест падказваў, што няма жартаў з туземцамі. Тут трэба дацаніць палескае “шанаванне” і не згубіць фасону... да белага рання!

*Ой дай Божэ нэділю дождаты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*Нэділю дождаты*

*То я-й піду до роду гуляты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*До роду гуляты*

*А ў мэнэ ўвесь род богаты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*Увесь род богаты*

*Будут мэнэ добрэ шановаты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*Добрэ шановаты*

*Будут мэні повно налываты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*Повно налываты*

*А я-й буду до дна выпываты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*До дна выпываты*

*Тоді-й буду до ранку гуляты (2р)*
*Сюды-туды хоть куды*
*До ранку гуляты*

* * *

На здаровы розум, у краіне, дзе вайна і кожны дзень гінуць людзі, чакаеш ваеннага рэпертуару, спаборніцтваў па стральбе ці патрыятычных прамоў. З самых Грудкоў на вайне загінуў ужо адзін хлопец. Тым часам народ быццам спецыяльна пазбягаў мілітарнай тэмы. Праўда, тыя ваенныя кадры з усходняга фронту, якія паказвала ўкраінскае тэлебачанне, не надта палохалі. Пры цэлай сваёй прэзентацыі танкаў і мілітарыяў, узарваных на амерыканскі капыл, хутчэй вабілі, чым палохалі маладых. Я сама пасля тэлеперадач з фронту дайшла да недарэчнай высновы: у параўнанні з палескім светам, з састарэлай інфраструктурай і статкамі кароў, карцінкі з вайны здаваліся мадэрнымі і крутымі. Не менш уражваў спакой палешукоў, якія з'язджалі на заработак у Расію. Ніхто не наракаў на псіхалагічны кошт такой паездкі. Расія, для большасці маіх суразмоўцаў, явілася далей як “эльдарада”. Пра вайну яны гаварылі з дыстанцыяй, пэўным недаверам і па-руску.

– Там неизвестно кто з кім воюе!

Згодна з палескім этыкетам, фэст «Лэбскія забавы» пачаўся прыгожай рыфмаванкай, у якой славіліся чароўная палеская прырода, шчырыя і працавітыя людзі, таленавітыя спевакі і іх продкі ды родная Валынь і Маці Украіна. Пасля прыйшла чарга на пажаданні. Пажаданні шчасця, дабра і міру былі накіраваны да ўсіх прысутных і да кожнага паасобку, нават да тых, што засталіся ў хаце глядзець тэлевізар. Менавіта, апрача песень, усе калектывы прывезлі пажадальныя рыфмаванкі. Той, хто найлепш пахваліў мясцовых і перабіў папярэдніка ў пажаданнях, атрымліваў бурныя апладысменты і вокліч:

– Маладзец!

Мае “Прыданкі” выступалі перад сцэнай, з лазовымі плеценымі кошыкамі, прыаздобленымі кустамі чарніц.

– Мы то на сцэну не хацелі, бо я ўжо не дам рады ўскараскацца на дошкі, – прызналася пасля баба Маня.

Ды і сцэна была мініяцюрнай, памерам як вароты ад клуні. Я з захапленнем глядзела на выкрунтасы і скокі жанчынак з Гуты-Баравенскай. Іх тэмперамент і галасістыя спевы заразілі спантаннай весялосцю ўсіх і ўсё навокал. Ну, проста жывы агонь! У думках я ўжо рыхтавалася, вядома з прыхаваным страхам, да музычнай сустрэчы ў бясецы. Досвед падказваў, каб прыхаваць у кішэні круты і абавязкова рыфмаваны тост!

* * *

– А ў вас кажуць слова “бардзо”? – пытаю спадарыню Галю, працаўніцу Грудкоўскага дзіцячага садка.

– Кажуць, кажуць!

Пытанне ўспыхнула пасля выступлення спявачкі з сяла Варакомля, якая на архаічнай гаворцы свайго сяла выспевала песню пра злую свякруху і нявестку, што стала ў полі таполяй. Хоць песня ўзрушыла да слёз, спадарыня Галя ў напружанні чакала моманту, аж на сцэну выйдуць дашкольнікі. Разам будзе выступаць яе дачка, настаўніца.

Украінскія школьнікі на кожным этапе адукацыі праходзяць заняткі па фальклоры. Вядома, «Лэбскія забавы» не маглі абысціся без мастацкіх прэзентацый мясцовых дашкольнікаў і школьнікаў, якія паставілі тэатралізаваныя эцюды пра Купалле. На сцэне паказалася таксама Катруся Шэўчык, студэнтка факультэта фальклору, у прыватнасці дачка тэмпераментнай Марыі Шэўчык, загадчыцы калектыву з сяла Варакомля

– А ў вас пускалі вянкі і збіралі зёлкі на Купалле? – пытаю ў пані Галі.

– Не, не было такога.

Купальскія эцюды, калі б памяняць песні, смела маглі б рабіць за беларускі або і малдаўскі фальклор. Падобны стыль прэзентавалі каляровыя касцюмы фабрычнай вытворчасці.

– Ці хто ў вас умее выткаць ручнік з ільну? – пытаю ў спадарыні Галі.

У адказ жанчына адмахваецца рукамі. Шчасце, што не трэба ўжо гэтым займацца, бо раней у іх калгасе вырошвалі лён. Божа мілы, колькі пры гэтым было работы. Кожная сям'я атрымлівала надзел ільну, каб яго апрацаваць.

– Прывязуць на падворак, скінуць на гурбу і хоць ты плач, – успамінае настаўніца.

Найгоршая была першая фаза апрацоўкі льну. Сушылі яго ў хаце на печы. Цэлы дом напаўняўся пылам. А ў хаце дзеткі малыя, кашляюць, вочы запухнуць як у кацянят. Пасля трэба было яшчэ церці і часаць драўлянымі часалкамі. Пакуль падрыхтуеш да здачы, дык ужо глядзець на лён не хочаш. А кажуць, што нашы бабулі вырошчвалі лён з чулlівасцю, а пасля яшчэ пралі і ткалі, ды кожная старалася, каб яе нітка была найбольш далікатнай і белай...

– Калі перасталі вырошчваць лён?

– Калі ў Камені-Кашырскім перастала працаваць ільноапрацоўчая фабрыка. Больш за дзесяць гадоў з таго часу будзе.

У згаданай ужо песні з Варакомлі лён паслужыў фонам для сямейнай трагедыі. Гэтую кранальную песню на падобную музыку спявалі ў часы майго дзяцінства на Падляшшы. У ёй вядомыя рэгіянальныя “скарбы”: чорная зайздрасць, ільняныя загоны, чары, прыгнёт і лячэбная прырода. У шчырым, уражлівым выкананні пажылой жанчыны з Варакомлі гэтая песня прамовіла як жывы працяг стагоддзяў.

*Мала маты сына*
*одным одіного*
*да вдала вжэныла*
*бардзо молодо(го)*

*Да взяла нэвыстку*
*бардзо молодую*
*бардзо молодую*
*тай нэўдало(ю)*

*Вырадыла сына*
*в далэку дорогу*
*молоду нэвыстку*
*в полы до лён*

*Ой як выражала*
*той прыказывала*
*нэ выбырэш лёну*
*нэ прыходь до дом (у)*

*Молода нэвыстыка*
*толькі розумала*
*нэ выбрала лёну*
*нэ прышла до дом(у)*

*Нэ выбрала лёну*
*нэ прышла до дому*
*у в чыстому полю*
*стала за тополь*

*Як прыехав мылы*
*з далекой дороги*
*пытае матэра*
*з любойiэ розмов(ы)*

*Матыр моя матыр*
*што ж то за прычына*
*што на нашом полю*
*роснэ тополынь*

*Нэ пытайся сынку*
*про тою прычыну*
*бэры топорыну*
*зрубай тополынь*

*Як ударыв пэршы*
*вона похылылась*
*як ударыв другы*
*слёзонкамі вмыл(ась)*

*Як ударыв трэті*
*дай заговорыла*
*ой нэ рубай мылы*
*я жэ ш твоя мыл(а)*

*Матыр моя матыр*
*што ж ты наробыла*
*што ж ты мэнэ маты*
*на віек розлучыла*
*(працяг будзе)*




Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960